*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# НАША СЛОВА




№ 5 • ЛІПЕНЬ • 1990 Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## У НУМАРЫ:



## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІМІРА ДУБОЎКІ



Уладзімір ДУБОЎКА.

# ЗАКОНУ ПРА МОВУ — ЖЫЦЬ І ДЗЕЙНІЧАЦЬ!

## КАБ СТАЦЬ ПАЎНАПРАЎНЫМ НАРОДАМ

Калі я рыхтаваўся да напісання гэтага артыкула, мне выпадкова трапіла пад руку адно слушнае выслоўе Мікалая Бярдзяева, якое не страціла сваёй актуальнасці: «Чаканне цуду ёсць адзін з недахопаў рускага народа, адна з самых яго вялікіх спакусаў». Дык вось мне здаецца, што ў адраджэнні роднай мовы беларусы — адзін са слаўных і вялікіх славянскіх народаў — чакаюць нейкага цуду, спадзяюцца, што мова адродзіцца сама па сабе, без ніякіх страт і ахвяраў. Ці мы, беларусы, звычаны гуляць у абыякавасць да свайго самага крэўнага і пракаветнага, ці гэта нейкая генетычная загана, што міжволі перадаецца пакаленнямі з сівой мінуўшчыны? Верыцца мне, што прычыны ўсё-ткі ў першым, што карані нацыянальнай адрачонасці не губляюцца ў глыбінях стагоддзяў.

Было б несправядліва сцвярджаць, што ў выкананні Закона пра дзяржаўнасць беларускай мовы няма ніякіх зрухаў. Адчуваюцца змены па ўсёй рэспубліцы, ды і ў нашым раёне таксама. Аднак ніхто за нас не будзе рабіць гэтую высакародную справу, якая патрабуе сапраўднага змагання. Давядзецца шмат каму даводзіць, тлумачыць, упарта пераконваць, а то і настойліва патрабаваць: адраджэнне нацыі, яе культуры і мовы не проста прыхамаці асобнай часткі беларускай інтэлегенцыі, нешматлікіх «фанатычна настроеных», як часам даводзіцца чуць, нефармалаў і іх лідэраў. Да гэтага змусіла нас сама гісторыя, той усеагульны крызіс, у якім апынулася наша грамадства. Шлях стварэння «единой нации — советского народа», на які звёў нас «отец всех народов», атрымаўся не толькі памылковы, але і злачынны. Не ўлічваючы генетычных асаблівасцяў, гістарычных умоў развіцця, нас усіх прагнулі зрабіць калектыўным статкам паслухмяных авечак.

Дарэчы, цяперашнія сацыяльна-эканамічныя і экалагічныя праблемы зацьмілі гарачае на першым часе жаданне людзей задумацца над лёсам сваёй мовы, аднеслі моўнае пытанне на другі план. Я веру, што настане час, калі не будзе ў нас чэргаў і прылаўкі папоўняцца. Гэта зрабіць прасцей, чым узбагаціць душу. Якую духоўную спадчыну мы пакінем будучым пакаленням, на мой погляд, не менш важна, чым колькі будзе каштаваць бохан хлеба.

Калі ўсчынаецца гаворка пра адраджэнне мовы, усе чамусьці адразу згадваюць пра настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. А што ж іншыя? Хто забараняе настаўнікам гісторыі распавядаць пра багатую і надзвычай цікавую гісторыю беларускай зямлі, хто не дае настаўнікам геаграфіі расказваць пра наш сінявокі азёрны край? А чаму б настаўнікам спеваў не запрасіць на ўрок самадзейных народных спевакоў і музыкаў? Справа іншая, калі настаўнікі рускія па паходжанню. Якой народнай песні яны могуць навучыць дзетак? Ды і сякі-такі беларус, бывае, не адстае ад іх. Варта папракнуць і нашы культустановы. У Лагойску, акрамя традыцыйных святаў, рэдка калі пачуеш сапраўдную народную песню.

Як гэта ні крыўдна і балюча, аднак даволі часта менавіта закасцянелы настаўніцкі кансерватызм шкодзіць справе адраджэння беларускай мовы. Пра якую нацыянальную свядомасць і асабістую культуру можа быць гаворка, калі мне кажуць так: «Нашто я буду ўступаць у ваша ТБМ, я і так па-беларуску размаўляю». Як ён размаўляе з пункту гледжання правільнасці і чысціні гаворкі, гэта іншая тэма.

Закон аб мовах, прыняты сёлета ў Маскве, па сутнасці перакрэслівае ўсё, чаго мы дасягнулі за апошні час у справе адраджэння роднага слова. Артыкулы 6 і 7, дзе гаворыцца пра рускую мову як пра афіцыйную мову для ўсіх народаў СССР, далі магчымасць уладам ківаць на актывістаў і энтузіястаў ТБМ. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пачало аўтаматычна выконваць ролю стрэлачніка. Калі што якое не будзе атрымлівацца, то будзе на каго спіхнуць: маўляў, настваралі ўсялякіх таварыстваў, няхай яны і адказваюць за стан спраў.

За адраджэнне роднай мовы трэба брацца ўсім разам. Вялікую ролю ў гэтай справе павінна адыграць царква. Пра гэта добра гаварыў Ян Матусевіч, святар аднаго з беларускіх касцёлаў. Патрэбна пакрысе пераадольваць той шматвекавы страх, які астудзіў нашыя сэрцы. «До спаць!» — хочацца, каб гэтыя крылатыя словы нашага песняра скаланулі душу кожнага беларуса.

Мікола ЛЯШЧУН,
старшыня Лагойскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

# 15 ЛІПЕНЯ ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ БІТВЫ

## НАШ ГАРТ



На здымку: у часе ўрачыстага мітынгу, які адбыўся ў нядзелю 15 ліпеня ў Мінску каля помніка Янку Купалу.

Фота А. КАЛЯДЫ.

*Прачыняючы дзверы ў мінуўшчыну, мы яшчэ адно расчынаемся з гэткай добрай справаю, якая мае быць усведамленнем гістарычнай місіі беларускага народа на грэшнай зямельцы. Праз ростул, што пакінулі нам навукоўцы і пісьменнікі, на нас няхай квола, ды павявае ветрык стагоддзяў. А таму жывіць нятамлёную ў прочках душу: мінулася пяцьсот восемдзесят гадоў з таго дня, калі тры смаленскія харугвы стрымалі раз'ятраны націск тэўтонаў. Беларускія ваяры выканалі свой абавязак дастачы: хаця адна харугва цалкам загінула, а ў дзвюх астатніх пасля бою не далічыліся большыні людзей, аддзелы Ульрыха фон Юнгінгена не здолелі парваць баявы парадак супольнага войска беларусаў, палякаў, жмудзінаў, татараў. Мужнасць беларусінаў са Смаленшчыны была галоўным камянём у падмурку перамогі Вялікага княства Літоўскага і Польскай Кароны пад Грунвальдам 1410 года. Слынных рыцараў з усяе Еўропы, якія трапілі ў атачэнне Вітаўтавага і Ягайлавага войскаў, напаткала ліхая доля.*

*Удзячны наведнік роднае старасвеччыны сёння няхай разважае паводле таго, чым сталася нашаму краю дый іншым землям Грунвальдская бітва. Пэўна што, абаранілі сваю старонку, спынілі навалу крыжакоў на Усход, спрычыніліся да заняпаду Тэўтонскага ордэна. Але да ўсяго дадаецца яшчэ штосьці. З даўкім камяком у горле, памінаючы тых хлапцоў, што знайшлі сабе прыстанак на ратным полі, трэ абавязкова не забывацца: менавіта праз пакуты і кроў, праз любоў да роднай старany і прагу да волі зачынаўся Беларускі Дух, зачыналася Крыўская ідэя. Гісторыя гэта ведае. Ці памятаем гэта ўсе мы?*

Лявон ВАШКО.

# ВЕРНЫ МАТЧЫНАМУ СЛОВУ

Ён нарадзіўся непадалёк ад славутага возера Нарач.

Маленства і юнацтва запалі ў душу паэта незабыўнымі ўражаннямі гэтага краю.

Калі «вайна з першымі немцамі»— так у народнай памяці ў адрозненне ад «другіх немцаў» захавалася назва імперыялістычнай — дакацілася да Беларусі, васемнаццацігадовы юнак разам з бежанскім абозам выпраўляецца на Усход. Неўзабаве, у пачатку грамадзянскай, становіцца чырвонаармейцам.

Яшчэ ў франтавым шынялі, успамінаючы песні сваёй маці, пачынае прабаваць уласныя сілы ў паэзіі. Вярнуўшыся ў сям'ю, якая атайбавалася ў Маскве, салдат бярэцца за вучобу. Паступае ў літаратурны інстытут, заснаваны кагадзе вядомым рускім паэтам В. Я. Брусавым.

— Даведаўшыся, што я беларус,— успамінаў Дубоўка,— Валерый Якаўлевіч запытаўся, творы якіх беларускіх паэтаў я ведаю. Калі я назваў яму некалькі імёнаў, ён пацікавіўся, якія творы Янкі Купалы я чытаў. Я назваў некалькі вершаў, у тым ліку «Адцвітанне». Валерый Якаўлевіч ухваліў мой густ і сказаў, што яму таксама падабаюцца гэтыя вершы. Заўважыўшы маё здзіўленне, ён дадаў:— Я не толькі ведаю вашага вялікага паэта, але і перакладаў яго вершы на рускую мову.

Уладзімір Дубоўка становіцца адным з лепшых вучняў строгага і патрабавальнага майстра. 28 мая 1921 г. газета «Савецкая Беларусь» друкуе першы верш маладога паэта. Да імёнаў ужо добра вядомых у той час Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, Міхася Чарота далучаецца імя Уладзіміра Дубоўкі. Голас яго, свежы і адметны, з кожным годам гучыць усё мацней і мацней. Адна за другой выходзяць кнігі: «Строма» (1923), «Там, дзе кіпарысы», «Трысцё» (1925), паэмы: «Крычаўская спакуса» (1925), «Кругі», «Наля» (1927), «Браніслава» (1929). Пад прыкметным уплывам майстра-наватара ў беларускую літаратуру ўваходзяць многія новыя таленты. Паэт нястомна падымае культуру роднае мовы на вышыню прафесійнай дасканаласці. Шукае новыя, яшчэ невядомыя ў нас, формы інструментоўкі верша, яго рытмічныя структуры, інтанацыйныя сугуччы. Так пад рукой сапраўднага чарадзея паэзіі загучала ва ўсёй сіле і харастве самабытнае беларускае слова.

І калі хто, бывала, дзівіўся:— Адкуль у вас, Уладзімір Мікалаевіч, такое веданне мовы?— паэт заўсёды адказваў:— Ад маці. І хоць яна была непісьменная, але мела ясны прыродны розум і, паўвека пражыўшы ў Маскве, гаварыла толькі па-беларуску. Я ніколі не вучыўся ў беларускіх школах, усё маё веданне мовы — ад маці. Я маю поўную падставу называць сваю мову — матчынай...

З матчынай мовай паэт выправіўся ў жыццё, пранёс яе цераз усе выпрабаванні свайго пакутнага лёсу. За вернасць мове, гісторыі, культуры роднага народа выдатны яго сын у самым росквіце свайго таленту гвалтоўным і бязлітасным сталінскім самаўладдствам быў асуджаны аж на тры дзесяцігоддзі несці свой цяжкі крыж пакуты і знявагі.

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет,*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш!*

Гэтыя радкі на памяці не аднаго пакалення беларусаў. Так паэт абвясціў свету ў самы плённы час творчасці сваю нясхісную веру ў нашу будучыню. Але ўсе светлыя спадзяванні нашых прарокаў чамусьці заўсёды паварочваліся супроць іх саміх толькі чорным лёсам.

Якая трагічная наканаванасць і народу, і яго звестунам, што гэтак верылі ў светлую быль, а яна сталася чорнай, ператвараючыся ў атрутны пыл, які «дзікі вецер» разносіць усё далей і далей. Ужо сама наша зямля асуджана на невядома якія стагоддзі ўсё тымі ж уладарамі нашага лёсу. Новае летазлічэнне пачынае яна, геральдычным сімвалам якога стаў горкапалынны куст чарнобылю. Чарнобылем зарастае Белая Русь. Колісь была Чорная Русь на Панямонні, цяпер наша трагічная гісторыя з сівой даўніны вяртае гэтую назву на прыпяцкія землі, на Дняпро і Сож.

О Беларусь, мая шыпшына, твае прарокі і песняры, канчаючы свой зямны шлях далёка ад цябе, нават жменькай попелу ўжо не могуць вярнуцца ў тваё ўлонне. Хоць, праўда, і раней нашы самаўладцы не вельмі рупіліся вяртаць запаветны прах дадому: ні Максіма Багдановіча, ні Змітрака Бядулі, ні сотняў тых, хто навечна застаўся ў тайзе і ў тундры, і ў безыменных магілах па ўсёй краіне. Свяшчэнны попел Янкі Купалы перавезены ў Мінск праз сорак год пасля гібелі паэта. Невядома, калі вернецца ў свой прынарачанскі край Уладзімір Дубоўка.

Чарнобыльская эпоха сталася для нас, жывых, яшчэ і чарнобыльскім крывадушшам. Лепш змаўчаць і схлусіць, абы не сказаць праўды. Вось, здавалася б, з самым лепшым намерам выдавецтва «Детская литература» на сёмым годзе пасля смерці пісьменніка пераклала і выдала яго аповесць «Як Алік у тайзе заблудзіўся». Але як самаўпраўна абышлася рэдакцыя з прадмовай, у якой я пісаў: «Нялёгкім было яго жыццё. Пачынаючы з 1930 года і да дня аднаўлення ў правах савецкага грамадзяніна, ён выцерпеў нямала пакут у час культу асобы. Сам аўтар зазначае, што за гэтыя гады як пісьменнік нічога не рабіў».

Як адрэдагавалі маю прадмову, каб, крый бог, не засмуціць душ юных чытачоў?

«Лучшие свои зрелые годы, почти три десятилетия, поэт жил далеко от Белоруссии: в Сибири, на Дальнем Востоке, куда его манил романтический дух неизведанного...»

«Манил дух»! Заўважце, у адным сцверджанні ўжо не адна, а дзве маны — і наконт «романтического духа» і наконт яго «лучших зрелых лет». Болей таго, ва ўсім гэтым ёсць яшчэ і трэцяя, самая горшая мана — гэта тая, што манім мы не толькі сабе, а і сваім дзецям і ўнукам.

Часта думаеш з болем душэўным: колькі страціла наша культура ад таго, што лепшыя яе дзеячы дачасна, бязлітасным гвалтам былі вырваны з творчага асяроддзя, з жыцця!

Уладзімір Мікалаевіч, прыроджаны вучоны, нястомны даследчык і творца з незвычайнай, рэдкай філалагічнай эрудыцыяй ва ўсіх еўрапейскіх мовах, неаднойчы прызнаваўся мне, як ён цешыўся, калі дзе ў так званай «зоне», пэўна, з сытага стала сваіх наглядчыкаў і ахоўнікаў знаходзіў пустую бляшанку з-пад амерыканскай тушонкі. Цешыўся шчасліваму выпадку прачытаць некалькі слоў па-англійску.

Колькі я ведаю моў, столькі разоў я чалавек — нярэдка паўтараў ён гэтую мудрую прыказку, заўсёды і ўсюды сярод іншых чуючы сваё роднае вялікае матчына слова. Яно жыве і ў запаветнай спадчыне паэта разам з творамі Шэкспіра, Гёте, Міцкевіча, якім ён засведчыў глыбокую пашану і любоў сваімі выдатнымі перакладамі.

Васіль ВІТКА.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# КЛОПАТ ДЗЯРЖАЎНЫ І ЎСЕНАРОДНЫ

## *Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета БССР*

Напачатку — колькі слоў пра нашу адукацыю. У нас у рэспубліцы кожны трэці жыхар вучыцца, значыць усяго — больш за тры мільёны. У тым ліку 2,6 мільёна — дзеці і моладзь. Рэформы школы, а іх пасля вайны было ўжо некалькі, нічога добрага не далі. Адна з галоўных прычын заняпаду школы — курс на уніфікацыю ўсяго духоўнага жыцця ў краіне. Ад Буга да Сахаліна — мы ўсё завіхаліся рабіць па адным стандарце, на адзін капыл. Адпаведна трымалі і курс на такую ж уніфікаваную нацыянальна-безаблічную школу. Што ў Хабараўску, што ў Мінску, што ў Кішынёве, усюды адно і тое ж. Сёння больш чым відочна, што гэты курс памылковы і шкодны. Фактычна ўтварыўся крызіс, з якога школу трэба неяк выводзіць. Як? Перш за ўсё трэба распрацаваць навуковую канцэпцыю нацыянальнай адукацыі. Канцэпцыю гэту магчыма стварыць толькі з улікам спецыфікі рэспублікі, з улікам рэальных патрэбаў развіцця народнай гаспадаркі і культуры Беларусі. І з улікам нацыянальных традыцый у галіне адукацыі. Нашай школе больш за 900 гадоў, калі лічыць ад тых першых, што былі ў манастырах і ў княскіх дварах. 400 гадоў назад у беларускіх гарадах узніклі гэтак званыя брацкія школы. Нават іх вопыт цікавы. Напрыклад, у брацкіх школах вывучалі, апрача роднай, беларускай, яшчэ пяць розных моў. Або, у Магілёве і Вільні ў брацкіх школах навучанне было бясплатнае, ужо тады, 400 гадоў назад. За тры гады да Кастрычніцкай рэвалюцыі на тэрыторыі сучаснай Беларусі было 7682 школы. Праўда, з іх пераважная большасць — пачатковыя. Сярэдніх было вельмі мала. Тым не менш, усе тыя школы былі на рахунку дзяржавы і грамадскасці. Гэта невялікі каментарый да тых самаедскіх легендаў, паводле якіх у нас у Беларусі да Кастрычніка панавала суцэльная цемра. Канцэпцыю нацыянальнай адукацыі трэба распрацоўваць і з улікам лепшага вопыту школы братніх рэспублік і замежных краін, з улікам сусветнай педагагічнай думкі, асабліва школы славянскіх народаў, школы ў чэхаў, у славакаў, балгараў і ў іншых.

Калі суверэнітэт Беларусі рэальны, то рэспубліканскі Закон аб народнай адукацыі мусіць мець верхавенства над усесаюзным: і на якой мове вучыць, і якія формы навучання будуць, якія віды школы ў нас маюць быць — усё гэта мы павінны рашаць самі. Так думаю я. Трэба зрабіць сапраўды дзяржаўны і ўсенародны клопат пра матэрыяльна-тэхнічную базу нацыянальнай школы. Асабліва ў цяжкім становішчы наша вясковая школа. Яна ва ўсіх адносінах адстае ад гарадской, гэтаксама як і вёска ад горада.

Наступная праблема — аўтарытэт настаўніка, які залежыць ад яго сацыяльнага становішча. Таварышы, жабрак сярод багатых не можа мець аўтарытэту. У гэтым, дарэчы, і прычына, чаму так мала ў нашай школе мужчын, а школа без мужчын, я думаю, як і сям'я без бацькі. Яшчэ адна з найвялікшых праблем — гэта здароўе школьнікаў. Дакладней — нездароўе школьнікаў. Педагогі і медыкі разам павінны неадкладна ўзяцца за работу, каб рашуча перайначыць становішча. У нас даўно ўтварыліся нажніцы паміж адукацыяй і выхаваннем. Веды даем, а душу нярэдка пакідаем дзікай. Патрэбны курс на гуманітарызацыю ўсёй адукацыі. Вядома ж, не за кошт паслаблення політэхнічнай адукацыі. Проста трэба, каб было разумнае спалучэнне. Асаблівую ролю трэба адвесці ў школах роднай мове, літаратуры, нацыянальнай гісторыі. Хачу вам сказаць, што ва ўсім свеце, у любой краіне родная мова — першы па значэнні, па важнасці прадмет. Гэта няцяжка праверыць. Беларусь, на жаль,— сумнае выключэнне. Пры гэтым трэба правесці вызваленне гуманітарных прадметаў ад напластаванняў вульгарнай сацыялогіі. У нашай краіне набірае сілу жорсткасць, хамства, цынізм і іншае, пра што мы гаворым і тут на сесіі. У такіх умовах выхаванне міласэрнасці, чуласці, спагады, агулам кажучы, чалавечнасці трэба зрабіць галоўным кірункам у працы над дзіцячай душою. Трэба прыдумаць, нарэшце, эфектыўную сістэму заканадаўчых і сацыяльных мер, якія б стымулявалі клопат бацькоў пра выхаванне сваіх жа ўласных дзяцей, каб не перакладалі гэта цалкам на плечы грамадства.

Цяпер зусім коратка наконт праблем культуры. Само слова культура па сэнсе надзвычай шырокае. У цэлым — гэта набыткі ўсёй цывілізацыі.

Культуры патрэбна матэрыяльнае забеспячэнне. Гэта аснова асноў. Артыст балета ў нас атрымлівае зарплату 100—110 рублёў і не мае ні рубля «прыварку», чым могуць пахваліцца людзі многіх іншых прафесій. Вось усе ў нас вельмі любяць песню «День Победы». Тысячы людзей, асабліва былыя франтавікі і партызаны, плачуць, слухаючы яе, і разумеюць, што адна гэта песня робіць больш, чым, можа быць, сотні лектараў, якія выступаюць з лекцыямі на патрыятычную тэму. Аднак, ці задумваўся хтонебудзь, як жывуць аўтары, якія складаюць такія песні? У якіх умовах яны іх твораць? Начамі на кухні, калі сям'я засне. Чаму ж такая няўдзячнасць? Сёння становішча культуры можа яшчэ пагоршыцца — і ў сувязі з нашай чарнобыльскай трагедыяй, калі вельмі многія кажуць: пра якую культуру, мову, мастацтва можна сёння гаварыць у нашых умовах? — і ў сувязі з пераходам на гаспадарчы разлік, так званую самаакупнасць, самафінансаванне.

У нас узмацняецца камерцыялізацыя культуры, мастацтва. Я ўпэўнены, што гэта для культуры шлях гібельны. Так мы дойдзем да таго, што ўвядзем платны ўваход, ны білет і ў грамадскія бібліятэкі, куды і так перастаюць хадзіць людзі. Рост гэтак званай масавай культуры вельмі трывожыць, і трэба думаць, як яго спыніць.

Мы пачалі такое выдаваць нашым гледачам з экрана, што старой распусніцы Еўропе, бадай, і не снілася. Можа, я шмат каго расчарую, але, на маё перакананне, у нашай рэспубліцы патрэбны больш жорсткія захады супраць прапаганды пошласці і абразлівых для чалавека непрыстойнасцяў з экрана. Распуста, якая ў нас культывуецца, прывядзе да такой эпідэміі СНІДА, якая будзе страшнейшая за радыяцыю чарнобыльскую, і тады, як той казаў, усяму канец. Усё лепшае, што з дзяцінства дае чалавеку сям'я, сад, школа, усё пасля забівае ў маладога чалавека гэтак званая масавая культура. У першую чаргу, мне думаецца, праз тэлебачанне ідзе бязлітаснае разбурэнне народнай маралі і эстэтыкі, учыняецца цынічны здзек з народнай педагогікі, з народных ідэалаў. Адно з двух: ці мы перайначым культурную палітыку, ці будзем далей каціцца ў духоўны тупік.

У сувязі з гэтым вельмі важнае пытанне пра захаванне гістарычнай спадчыны. Яна ў нас працягвае разбурацца. Якія страты за 70 гадоў мы панеслі, страшна ўявіць. Калі намаляваць агульную карціну, што мы натварылі, крычма крычаць хочацца. Уся Беларусь калісьці была ўстаўлена шэдэўрамі нацыянальнага дойлідства, мы мелі тысячы храмаў — і белакаменных, і драўляных, княскіх замкаў, палацаў, паркаў, прысадаў, сажалак, мастоў, надмагільных помнікаў і шмат-шмат чаго іншага. Усё гэта зруйнавана, разбурана і, як вы ведаеце, не толькі вайной, але і па нашай нядбайнасці. Аднаўляць, рэстаўраваць няма ні сіл, ні сродкаў, а галоўнае — няма разумення, што гэта трэба. Ёсць погляд, ёсць такая філасофія для апраўдання, што можна жыць і без гэтага. Можна, вядома, жыць і без гэтага. Без культуры. Але як? Вось пытанне пытанняў. Для ўсіх нас. Для ўсяго грамадства.

# ЯК ПЕРАМАГЧЫ ІМПЕРСКІ СІНДРОМ

Алег ТРУСАЎ

## Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Галоўная задача ў тым, каб як мага хутчэй выкараніць з нашай самасвядомасці тую ідэалогію неасталінізму, якая значна пашырылася ў «застойны перыяд».

Гэтую ідэалогію і палітыку можна ўмоўна назваць «імперскім сіндромам». Вытокі хваробы сягаюць у глыбіню расійскай гісторыі і бяруць свой пачатак з агульнавядомага тэзіса «Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць». Адпаведна гэтай канцэпцыі Маскоўская дзяржава, а потым Расійская імперыя вялі пачынаючы з XVI стагоддзя няспынныя каланіяльныя войны і ператварыліся ў самую вялікую краіну ў свеце, якая, як трапна адзначыў У. І. Ленін, была «турмою народаў».

Беларускі народ у гэтай турме быў самы гаротны вязень, які не меў нават права на сваю назву, мову і гісторыю і доўгі час быў схаваны пад тэрмінам «население Северо-Западного края». А калі яшчэ ўлічыць вынікі паланізацыі, якая таксама пачалася з XVII стагоддзя, то беларусы апынуліся паміж дзвюх варожых сілаў, пра што добра сказаў Янка Купала ў сваёй п'есе «Тутэйшыя».

У выніку гэтай гістарычнай і трагічнай з'явы ў пачатку XX стагоддзя беларусы аказаліся ў вельмі цяжкім стане і сталі суб'ектам каланіяльнай геапалітыкі, якая прывяла да таго, што колькасць насельніцтва значна паменшылася, а тэрыторыя этнічнага рассялення стала паступова, але няспынна змяншацца. Толькі ўздым нацыянальнай свядомасці і культуры ў другой палове 20-х гадоў нашага стагоддзя вылучаецца яскравай маланкай на пахмурным небасхіле народнай гісторыі.

Менавіта ў гэтыя часы нацыянальная палітыка на Беларусі стала набліжаецца да еўрапейскіх, цывілізаваных традыцый.

На Беларусі паўсюль загучала беларуская мова, існавалі, акрамя беларускіх, рускія, польскія, яўрэйскія, літоўскія і латышскія школы, існавалі нацыянальныя тэатры, газеты, часопісы, друкаваліся кнігі, развівалася краязнаўства, вывучаўся фальклор і розныя нацыянальныя рамёствы.

Але хутка пераважная большасць нацыянальна свядомых людзей, што здаўна жылі на Беларусі, і ў першую чаргу інтэлігенцыя, апынуліся ў Курапатах, парку Чалюскінцаў, на Калыме і Магадане. Значныя ахвяры панесла нацыянальная культура ўсіх народаў Беларусі ў гады апошняй вайны, у часы хрушчоўскіх сямігодак і брэжнеўскай «стабільнасці», калі цэлыя ведамствы цікавалі за так званымі «нацыяналістамі» і ўвесь час вы-водзілі іх на «чыстую ваду». Ляжала ў «спецхранах» нацыянальная гісторыя, узрываліся цэрквы і касцёлы, руйнавалася Мінскае замчышча, зносілася Няміга, будаваўся чарговы свінакомплекс на мурах Гальшанскага замка, пракладалася шаша праз Бельчыцкі манастыр, усцяж «са згоды і па жаданні бацькоў» зачыняліся беларускія школы. І ў гэты час беларусы мусілі ганарыцца тым, што яны першыя прыйдуць да камунізму, дзе будзе адна мова і адна культура для ўсіх плямёнаў і народаў свету. І яны прыйшлі, прыйшлі да экалагічнага, палітычнага і духоўнага Чарнобыля. Далей ісці ўжо няма куды.

Я бачу выйсце ў стварэнні канцэпцыі нацыянальнага адраджэння ўсіх народаў, што жывуць здаўна на Беларусі, і ў першую чаргу беларусаў. Для гэтага неабходна:

1. Распрацаваць і паступова ўводзіць пачынаючы з 1 верасня гэтага года сістэму нацыянальнай адукацыі. Пры гэтым колькасць школ і вышэйшых навучальных устаноў павінна адпавядаць колькаснаму складу насельніцтва і быць размешчана ў месцах кампактнага пражывання людзей той ці іншай нацыянальнасці.
2. Стварыць Інстытут гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі, які павінен распачаць працу па шматтомным выданні нарысаў па гісторыі і этнаграфіі народаў БССР.
3. Распрацаваць і няспынна ажыццяўляць нацыянальную праграму рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры, прычым культавыя помнікі трэба, як правіла, перадаваць вернікам.

Спадзяюся, што тыя 3% бюджэту на культуру, што абяцаў нам тав. Кебіч, будуць падмацаваны будаўнічымі матэрыяламі, абсталяваннем і замежнай валютай.

4. Пачынаючы з 1991 года даць усім народам, што жывуць на Беларусі, магчымасць мець свае выданні, тэатры, музеі і фальклорныя ансамблі. Выдзеліць для гэтага неабходныя сродкі.
5. Стварыць спецыяльны фонд дапамогі, грашовай і матэрыяльнай, усім беларусам і іншым былым жыхарам рэспублікі і іх нашчадкам за межамі БССР для развіцця іх адукацыйнай і культурна-асветніцкай дзейнасці.
6. Выдаць шматтомную гісторыю ве-равызнанняў народаў Беларусі на беларускай мове і мовах усіх асноўных народаў БССР.
7. Адкрыць у БДУ факультэт моваў народаў Беларусі.

А цяпер хачу сказаць некалькі слоў пра неадкладныя праблемы некаторых народаў на тэрыторыі Беларусі.

Другім па колькасці народам, што насяляюць нашу рэспубліку, з'яўляюцца рускія, якія пасяляліся на Беларусі з XVIII стагоддзя. Гэта спачатку былі стараверы, што ратаваліся ад царскага ўціску і стварылі на тэрыторыі Веткаўскага раёна унікальны этнакультурны рэгіён. Зараз, пасля Чарнобыльскай катастрофы, трэба ўсіх пацярпелых людзей перасяляць у чыстыя раёны толькі разам, каб яны змаглі захаваць свае звычаі, мову і мікратапаніміку.

Асобнае пытанне — гэта выратаванне Веткаўскага музея.

На тэрыторыі заходняй і цэнтральнай Беларусі жыве шмат палякаў, якія ўжо зараз мусяць мець свае школы, падручнікі і газеты. Але пры гэтым трэба не забываць, што далёка не кожны каталік — гэта паляк, як лічылі раней, і таму набажэнствы ў касцёлах павінна, пры магчымасці, весціся на польскай і беларускай мовах, а некаторыя польскія гісторыкі мусяць перастаць запісваць помнікі каталіцкай і уніяцкіх вераў у фонд толькі польскай культуры. Гэтую заўвагу можна адрасаваць таксама і літоўскім гісторыкам і мастацтвазнаўцам.

Шмат бяды і фактаў генацыду пера-жыло ў XX стагоддзі яўрэйскае насельніцтва Беларусі, якое значна скарацілася і страціла большасць сваіх культурных каштоўнасцяў.

Лічу неабходным пакласці канец публікацыям, дзе праводзяцца ідэі антысемітызму (маецца на ўвазе ў першую чаргу часопіс «Политический собеседник»). Урад Беларусі павінен знайсці пэўныя сродкі для адкрыцця яўрэйскіх школ, дзе можна вывучаць як ідыш, так і іўрыт, і запрасіць для гэтага адпаведных выкладчыкаў.

Пэўны ўклад у развіццё беларускай культуры ўнеслі і беларускія татары. Патрэбна тэрміновая дапамога ў аднаўленні унікальных помнікаў іх культуры, самых старажытных мячэцяў на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, а таксама факсімільнае выданне іх святых кніг «Аль-кітабаў», напісаных арабскімі літарамі на беларускай мове (у арабскай і кірылічнай транскрыпцыі).

Здаўна жывуць на Беларусі і цыганы. Зараз гэты народ знаходзіцца ў гаротным стане і застаўся па-за ўвагай нашай грамадскасці. Патрэбна дапамога цыганам стварыць сваё культурнае таварыства па ўзору іншых народаў Беларусі, скласці беларуска-цыганскі слоўнік і адкрыць школу на іх роднай мове (напачатку пачатковую).

Пэўную ўвагу трэба звяртаць і на культурныя патрэбы тых прадстаўнікоў розных народаў на Беларусі, якія не маюць кампактных месцаў пражывання. Найбольшую колькасць з іх складаюць украінцы, якія ўжо маюць сваё грамадска-культурнае аб'яднанне.

# БЕЛАРУСЫ Ў АМЕРЫЦЫ

Калі нашы суайчыннікі ў Амерыцы даведаліся, што ў нас створана Таварыства беларускай мовы, яны вырашылі падтрымаць нас у гэтай справе і стварылі сваю суполку, якую ўзначаліла Вера Бартуль. Сустрэўшыся з ёю ў Мінску, я папрасіла расказаць пра беларусаў у Амерыцы.

БАРТУЛЬ: — Прыехалі мы, як пакінулі Бацькаўшчыну, эмігрыравалі ў Амерыку і адразу зачалі фармаваць свае беларускія арганізацыі, таксама зачалі купляць цэрквы і пры іх, натуральна, гуртаваліся. І вось маем аб'яднанне беларусаў у Амерыцы — называецца БАЗА (Беларускае амерыканскае згуртаванне) і іншыя арганізацыі: маем арганізацыю моладзі, Інстытут навукі і мастацтва Крачэўскага і іншыя.

**КАР.: — Што дапамагае вам захаваць сваю беларускасць: мову, звычаі?**

БАРТУЛЬ: — Я асабіста гляджу так, што амаль кожнаму чалавеку пакінута ў спадчыну ўсё тое, што зрабілі іх бацькі і прадзеды. І вось мы, беларусы, нягледзячы на тое, што маем такія цяжкія гістарычныя ўмовы нашага краю, мы ўсё-такі захавалі цудоўную спадчыну: нашу мову, нашу гісторыю, нашу культуру і традыцыі, і песні, і танцы. Мы гэта ўсё вельмі любім і стараемся захаваць і перадаць нашаму малодшаму пакаленню, нашым маладым амерыканскім беларусам. Ну, натуральна, мы зачалі таксама — як я яшчэ прыехала ў Амерыку, была маладая — свае школы, арганізацыі, і гэта была зусім натуральная рэч, што мы жылі амаль што сваё жыццё, беларускае.

**КАР.: — Якім чынам удаецца перадаць родную мову сваім дзецям?**

БАРТУЛЬ: — Любоў да яе і пашана. Для мяне нават дзіўна — што значыцца «перадаць»? Мне здаецца, гэта такая натуральная рэч, як я дыхаю. Я мушу дыхаць, праўда? Бо іначай я не буду жыць. Як чалавек можа жыць і не гутарыць сваёй мовай? Для мяне адно не можа існаваць без другога.

**КАР.: — Я не проста так задаю гэта пытанне. Яно, уявіце, праблемным з'яўляецца для нас, беларусаў. У сувязі з парушэннямі ў нацыянальна-моўнай палітыцы, у нас, як вы ўбачылі зараз, пануе рускамоўнае асяроддзе і вельмі моцная дэнацыяналізацыя. Беларусы, адмовіўшыся аднойчы ад сваёй роднай мовы, прыехаўшы з вёскі ў гарады (асабліва ў гарадах пануе руская мова і культура, дакладней кажучы, бескультур'е), маюць праблему — як зараз дзяцей навучыць беларускай мове. Нават у межах школьнай праграмы. Я ўжо не кажу пра тое, каб карыстацца пастаянна роднай мовай. Але нашы дзеці заканчваюць школу і могуць з цяжкасцю чытаць — так бывае ў тых сем'ях, дзе да беларускай мовы або ставяцца пагардліва, або не падтрымліваюць гэта імкненне ў дзяцей і не замацоўваюць тое, што дала школа (а школа дае мінімальнае). Мне б хацелася, каб вы больш расказалі пра свой асабісты вопыт.**

БАРТУЛЬ: — Трэба мець перадусім пашану да сваёй мовы, ганарыцца ёю і любіць. Матка пераважна ўзгадоўвае дзіцё. І як яна да свайго дзіця гавора на сваёй мове, дык няма ніякіх праблемаў. Першыя крокі і словы матка вуча дзіцё, а пазней ужо дзіцё ідзе ў школу. Дык вось мы перадусім вучым мову ад пачатку. Як мой сын — меў тры годзікі і пайшоў у дзіцячы садок, дык ён ні аднаго слова не гаварыў па-англійску. І ён цэлы месяц стаяў і нічога не разумеў, але я гэтага абсалютна не прыймалася, бо я ведала, што ён раз-два навучыцца ў Амерыцы ангельскай мове. І, напэўна, цяжэй будзе яму пазней з беларускай. Калі такі браць падыход, то мне здаецца, тады лягчэй крышку вучыць. Як дасі засады ад пачатку, з малых гадоў, то гэта застаецца.

**КАР.: — Спадарыня Вера! Вы ўпершыню ў Савецкім Саюзе, упершыню на Радзіме — вашы ўражанні? Ці не атрымалі вы пэўнае расчараванне, таму што трапілі зараз у сталіцу, дзе нацыянальнага мала?**

БАРТУЛЬ: — Гэта такое пачуццё, якое нават цяжка перадаць... Мы былі ўзрушаны, вельмі чуліся шчаслівымі, мы чакалі, столькі гадоў да гэтай хвіліны! І, едучы сюды, мяне пыталіся: «Як ты чуешся?» Я кажу: «Я папросту не ведаю». Хваляванне такое: і радасць, і задаволенасць, і крышку баюся амаль што, бо ведаю, што нас тут раней не жадалі. Так што... такое пачуццё было — невыразнае. Ну, як прыехалі — нас тут так цудоўна спаткалі, з хлебам, соллю, з караваем, столькі беларусаў многа!.. Ну, гэта цяжка перадаць нават. Было надзвычай прыемна. Але пазней, ходзячы кругом, паўсюль чулі расейскую мову — і вось тут ужо было расчараванне. І хоць мы чулі гэта раней, то не быў для нас такі сюрпрыз, але расчараванне ёсць. Бо як жа ж? Мы ж афіцыйна ёсць прадстаўнікі Аб'яднаных Нацыяў, адна з трох нацыяў Савецкага Саюза, якая запачаткавала Аб'яднаныя Нацыі... І тут раптоўна ў сваёй краіне, у сваёй сталіцы не чуваць сваёй мовы, толькі адзінкі: або паэты, альбо карэспандэнты, альбо моладзь. Трэба сапраўды ганарыцца, што наша моладзь у Менску, частка моладзі, пачынае здабываць пашану і любоў да сваёй мовы, ганарыцца гэтым. Так што мы маем надзею. Але расчараванне ёсць.

**КАР.: — Трэба сказаць, што гэта моладзь пасля дабрачыннага канцэрта, што вы далі ў сталіцы Беларусі разам з ансамблем «Васілёк» і ансамблем «Жывіца», які неўзабаве прыедзе да вас у Амерыку, запрасіла вас на Купалле ў Вязынку, на радзі-**



Ансамбль «Васілёк». Фота А. КАЛЯДЫ.

Ад 1956 года існуе ў Нью-Йорку аматарскі танцавальны гурток «Васілёк». У яго прымаюць беларускіх дзяцей, якія праз народныя танцы спасцігаюць тут карані, вытокі нацыянальнай культуры. Ад пачатку яго існавання гуртом кіруе Ала Орса (па мужу — Рамана), цяпер — прафесар хіміі Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта.

У канцы ліпеня 17 гурткоўцаў гасцявалі на Бацькаўшчыне. Большасць з іх упершыню бачыла родную Беларусь, бо нарадзіліся і выраслі яны за акіянам, у ЗША. Усе «васілёчкі» размаўляюць па-беларуску. Гэта вынік сведамага сямейнага выхавання і традыцыя гуртка.

Знаёмства з маладымі заакіянскімі суайчыннікамі пераконвае ў тым, што марныя страхі нашага абывацеля, бо толькі ўласная лянота і нізкі ўзровень культуры ў грамадстве замінаюць людзям свабодна валодаць рознымі мо-

му Янкі Купалы. Хацелася, каб вы падзяліліся сваімі ўражаннямі, расказалі, як і якія святы вы ладзіце там, у Амерыцы.

БАРТУЛЬ: — Так, мы таксама Купалле святкуем. Мы маем такую дачу беларускую за Нью-Йоркам, і там збіраемся летам, робім Купалле, іншыя святы — свята незалежнасці 25 сакавіка 18-га году, Каляды, Вялікдзень... Моладзь збіраецца, вогнішча робім (не такое вялікае, як мы тут бачылі, многа меньшае) і танцуем, спяваем беларускія песні купальскія і звычайныя таксама. Мы, бачыце, маем настаўнікаў, падручнікі, спеўнікі беларускія і вучым дзяцей, вучымся разам і спяваем.

КАР.: — Вашы пажаданні Беларусі.

БАРТУЛЬ: — Мае пажаданні такія, каб бачыць сваю Беларусь такой, дзе магла б я са сваімі дзецьмі, сваёй сям'ёй прыехаць, калі захачу (чы жыць стала, чы на адпачынак) і каб чуцца сапраўды дома. Вот такую б я хацела бачыць Беларусь. І маю надзею, што яна такая, магчыма, у хуткім будучым і будзе. А мы, беларусы, досыць цярплівыя. Думаю, што ў вельмі хуткім часе мы будзем чуцца беларусамі ў сваёй хаце.

Якраз я не так даўно, амаль што перад ад'ездам сюды, была выбрана старшынёй Таварыства беларускай мовы. Мы жадалі, каб тут стварылі ўмовы такія, дзе мы маглі б прысылаць сваіх дзяцей на лета вывучаць сваю і мову, і культуру... (Я сёння была, напрыклад, у беларускім музеі — такое багацце я бачыла!), каб гэта можна было паехаць на вёску, падыхаць свежым паветрам. Гэта было б, сапраўды, вельмі пажадана.

Інтэрв'ю ўзяла сябра Мінскай гарадской Рады ТБМ Рэгіна ГАМЗОВІЧ.



вамі, найперш — беларускай. Сярод «васілёчкаў» былі лекары, праграмісты, адвакаты, дантысты, мастакі, банкаўскія служачыя... Гэта прыстойныя дзелавыя амерыканцы. А веданне роднай мовы і культуры — сродак збярэжання душы, уласнай адметнасці, якраз тое, што дае сілы і мэту жыцця, вылучае з асяроддзя і выклікае да сябе цікавасць, павагу людзей іншых нацыянальнасцей.

Афіцыйна «Васілёк» быў госцем Беларускага таварыства «Радзіма», якое арганізавала выступленні танцораў у Мінску, Полацку, Гародне, калгасе «Нёман». «Амерыканскім беларусам» падчас канцэртаў хораша дапамагаў ансамбль «Жывіца» (кіраўнік Валянціна Пархоменка). Яны мелі таксама шмат азнаямляльных паездак і сустрэч: наведалі Курапаты, дзіцячыя сады, Мінскі гематалагічны цэнтр і НДІ ў Аксакаўшчыне, музей старажытнабеларускай культуры АН БССР, Вільню, удзельнічалі ў Купаллі, у рабоце канферэнцыі Беларускага народнага фронта «Адраджэньне», займелі шмат сяброў.

«Жыве Беларусь!»— такім радасным воклічам можна было падсумаваць кожны канцэрт, кожную сустрэчу «Васілька» з наведнікамі канцэртаў і ўдзельнікамі сустрэч. Эйфарыя свята... Як перанесці гэты энтузіязм на будні — на беларускае школьніцтва і сямейнае выхаванне? Не ідзе з галавы размова з Алай (спадарыняй Алай). Калі яе малодшаму сыну трэба было ісці ў дзіцячы сад, яна пайшла знаёміцца з выхавальніцай. Тая ўважліва выслухала ўсё пра характар і звычаі хлопчыка, пра тое, што паслугоўваецца ён толькі беларускай мовай, англійскай зусім не ведае, і папытала, ці ёсць у хаце кот, сабака, як іх завуць. Кошачку звалі Рабенькая і выхавальніца доўга адпрацоўвала з Алай вымаўленне гэтага слова, каб лягчэй было наладзіць кантакт з дзіцем.

У нас магчыма нешта падобнае?

Валянціна ТРЫГУБОВІЧ.

# ЛІПЕНЬ

**У нашым краі шмат паселішчаў, у назве якіх ёсць корань слова ліпа: Ліпа, Ліпкі, Ліпск, Ліпнікі, Ліпавец, Ліпаўка. Названыя яны так нібыта таму, што калісьці там раслі ліпы. Але і ў іншых беларускіх вёсках некалькі дзён у сярэдзіне лета ўладарыць прыемны водар — ліпень. Больш трапнай назвы гэтаму часу і не прыдумаеш!**

Ліпа, напэўна, шмат значыла ў жыцці нашых продкаў. І не толькі таму, што з яе выдоўбвалі посуд, збіралі лекі — гронкі кветак, дралі лыка. Лічылася, што ліпа аберагае будынкі ад маланак.

Сувязь паміж ліпай-дрэвам і назвай паселішча напэўна глыбейшая. Карані яе — у эмацыянальнай душы нашага продка. Яна вынікала з разумення адзінства чалавека і прыроды. (Кельцкія жрацы друіды наогул сцвярджалі, што кожны чалавек мае свайго адпаведніка — дрэва пэўнай пароды).

Некаторыя рысы характару беларусаў уяўляюцца мне вельмі падобнымі да біялагічных адметнасцяў-якасцяў нашага любімага дрэва.

Нашыя продкі назвалі сёмы месяц ліпенем. А маглі ж даць яму імя ў гонар бога Перуна ці якога-небудзь правадыра, як зрабілі гэта старажытныя рымляне, калі за 45 гадоў да пачатку нашай эры замянілі назву месяца квінцілія на іюль у гонар дзяржаўнага дзеяча Юлія Цэзара, які марыў пра сусветную манархію, а таму, відаць, правёў рэформу календара. Новы каляндар хутка распаўсюдзіўся па Еўропе, значная частка якой падпарадкоўвалася Рымскай імперыі. Трапіў ён і да нашых продкаў, але яны толькі прыстасавалі «юліянскі каляндар» да сваіх патрэбаў, не мяняючы назваў месяцаў.

На той час нашыя продкі ўжо мелі свой дасканалы каляндар. Ён быў заснаваны на цыклічнасці з'яў прыроды і гаспадарчай дзейнасці арыяў. Ускосна на карысць такога меркавання сведчаць беларускія назвы месяцаў (падобныя да іх і ўкраінскія), а таксама знойдзены археолагамі ля Кіева прыгожы збан IV стагоддзя н.э. з цікавым арнаментам, сярод узораў якога кідаюцца ў вочы выціснутыя штампікамі крыжыкі ды кола з шасцю спіцамі —«грамавы знак». (Ён, як і касыя крыжыкі — знакі сонца,— добра вядомы і распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі).

Археолаг і гісторык Б. А. Рыбакоў лічыць, што адкапаны збан — гэта каляндар, але толькі на летнія месяцы. «Грамавы знак» на гэтым календары адпавядае дню 20 ліпеня, калі ўшаноўвалі Перуна, складалі яму ахвяры ды прасілі, каб перад жнівом супыніў дождж. Каляндар-збан сведчыць і пра вельмі высокі ўзровень агратэхнічных ведаў прыднепроўскіх сялян, якія гандлявалі збожжам з Рымам. Стваральнік гэтай пасудзіны ўлічыў, напрыклад, усе перыяды развіцця яравое пшаніцы ад з'яўлення параростку да выспявання зерня.

Вядомы беларускі археолаг Л. Д. Побаль мае адметны погляд на культуру жыхароў Беларускага Падняпроўя ды Палесся. Аргументы для такога меркавання ён «выкапаў» на гарадзішчах. Самае цікавае з іх — ля вёскі Чаплін Лоеўскага раёна. Яно лічыцца гарадзішчам мілаградскай і зарубінецкай культур, носьбіты якіх былі продкамі беларусаў. Там выяўлены такія вырабы з металу, што параўнаць іх можна толькі з кельцкімі. Рэчаў і зброі знойдзена столькі, што можна гаварыць толькі пра мясцовы іх выраб.

Варта нагадаць пра шматлікія знаходкі рымскіх грошай. На тэрыторыі Беларусі выяўлена да 1976 года 12 скарбаў і 34 адзінкавыя знаходкі антычных манетаў — усяго больш за 2000 срэбраных рымскіх дынарыяў.

Гэта быў якраз той час, калі пачаў дзейнічаць «юліянскі» каляндар. Нашым продкам, што гандлявалі з Рымам (бо адкуль жа ў іх столькі рымскіх грошай?), ніязручна было спазніцца на тры месяцы (даўней славянскі год пачынаўся 1 сакавіка), а таму і ў нашым краі прыжыўся «юліянскі» каляндар.

Але нашым продкам хапіла розуму, каб з пашанай паставіцца да слова прашчураў, якім раднейшае было дрэва, што не толькі абувала, давала лекі і харч, але і аберагала будынкі ад маланак. Пах квітлых ліпаў быў даражэйшы і бліжэйшы душы продка, ды яшчэ падказваў, што прыйшла пара рыхтавацца да жніва.

Якое ж дрэва пасадзіць нам, каб аберагала і цяпер нашу мову ад маланак, што спальваюць, нібы арэхі на ляшчыне, адметныя, трапныя словы нашых прашчураў?

Здзіслаў СІЦЬКО.

# У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ

Наўрад хто можа сёння сказаць, колькі дакладна беларусаў жыве па-за межамі БССР, але вядома, што лік ідзе не на сотні тысяч, а на мільёны. Па рознаму складваўся іх гістарычны лёс. Амаль на ўсіх прымежных з рэспублікай тэрыторыях з даўным даўна жыве этнічнае беларускае насельніцтва. Праўда, не маючы магчымасці для свайго нацыянальнага самасцвярджэння, беларусы паступова асімілявaліся, аднак большасць, асабліва ў сельскіх мясцовасцях, захавала мову, традыцыі і веру продкаў, пры гэтым часта і не ўсвядамляючы сваёй сапраўднай нацыянальнай прыналежнасці. Вельмі шмат беларусаў, будучы ад XVII стагоддзя пазбаўленымі уласнай дзяржаўнасці і, значыць, абароны сваіх правоў, не маючы нармальных умоў для існавання, пакідалі абжытыя месцы і падаваліся ў чужыя краі. Такім чынам яшчэ задоўга да рэвалюцыі сотні тысяч нашых землякоў апынуліся ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, у Канадзе, Аўстраліі, ЗША, Аргенціне. Многія з іх і іх нашчадкаў сваёй традыцыйнай працавітасцю, трываласцю, мужнасцю і розумам здабылі годнасць нацыянальных герояў, на вякі славутых людзей у тых людзей, сярод якіх яны па волі лёсу апынуліся. Дзеля прыкладу назавём выхадцаў з Наваградчыны — прэзідэнта Чылі Ігнацыя Дамейку і французскага паэта Гіёма Апалінэра, сапраўднае прозвішча якога Кастравіцкі. Ланцужок славутасцяў можна доўжыць, скажам, аж да вядомага сёння на ўвесь свет доктара Гейла, які адразу ж прыняў да сэрца Чарнобыльскі боль і зрабіў усё магчымае дзеля ўратавання пацярпелых ад катастрофы. Продкі Роберта Гейла — беларускія сяляне Галінскія, якія яшчэ ў XVIII стагоддзі пакінулі Магілёўшчыну і падаліся ў Амерыку.

Перад навукоўцамі стаіць актуальная задача агульнанацыянальнага маштабу па напісанню гісторыі беларускага этнасу ад яго першавытокаў да сучаснасці. Але не менш вострая і патрэба арганізацыйнага, а, значыць, і свядомаснага згуртавання беларусаў незалежна ад месца іх пражывання.

Такія агульнанацыянальныя аб'яднанні ёсць, бадай, ва ўсіх цывілізаваных народаў свету, у тым ліку і ў нашых бліжэйшых суседзяў — рускіх, украінцаў, прыбалтаў, палякаў.

Ускалыхнутае перабудовай нацыянальнае абуджэнне не абмінула і беларусаў. Як карэнных, так і тых, што па розных прычынах і ў розныя часы выехалі з Беларусі, але адчуваюць яе дочкамі і сынамі. Да нядаўна ў кожнага з іх была толькі свая сцяжынка да Бацькаўшчыны. Цяпер сітуацыя памянялася і з'явілася магчымасць згуртоўвацца ў зямляцтвы. Пры рэспубліканскім фондзе культуры зарэгістравана 9 афіцыйна зацверджаных мясцовымі органамі ўлады беларускіх зямляцтваў — Масквы, Ленінграда, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Калінінграда, Карэліі, Крыма і Навасібірска.

Зроблены пакуль што першыя і досыць сціплыя крокі, асабліва калі параўноўваць іх з тым, што было ў гады дваццатыя. Нацыянальнае беларускае адраджэнне ішло тады з велізарным уздымам і энтузіязмам. Паводле дадзеных Наркамасветы РСФСР у сярэдзіне 20-х гадоў на тэрыторыі Расіі, пераважна на Далёкім Усходзе, Смаленшчыне і Сібіры працавала звыш 500 беларускіх школ. Магутны беларускі студэнцкі рух разгортваўся ў Маскве. Паводле звестак тагачаснага друку на зямляцкія вечарыны збіралася да тысячы чалавек. Тут выдаваліся студэнцкія часопісы «Змаганьне» і «Чырвоны шлях». Беларусы Латвіі, чые інтарэсы ва ўрадзе адстойваў Ян Райніс, мелі свае школы, дзве гімназіі, перыядычныя выданні, тэатр. Але асабліва моцным патрыятычны рух быў у Заходняй Беларусі, якая апынулася ў складзе Польшчы.

Беларускі рух ва ўсіх краінах найперш жывіла вера ў сваю Бацькаўшчыну, у тое, што Беларусь назаўжды здабудзе сабе дзяржаўнасць, а яе народ стане паўнаўладным гаспадаром на роднай зямлі і будзе сам распараджацца ўласным лёсам...

З разумення патрэб беларусаў, якія жывуць за межамі Беларусі, і ўзнікла ідэя стварэння і на беларускай глебе агульнанацыянальнага згуртавання. Дзеля рэалізацыі гэтай ідэі некалькі месяцаў назад быў створаны Аргкамітэт па стварэнню Міжнароднага Згуртавання (асацыяцыі) беларусаў «Бацькаўшчына». У яго склад уваходзяць добра вядомыя грамадскасці людзі, сярод якіх акадэмік Р. Гарэцкі, доктар філалогіі, пісьменнік А. Мальдзіс, доктар гістарычных навук М. Ткачоў, доктар юрыдычных навук Я. Юхо, рэктар тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава І. Жарскі, народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР Ю. Беленькі і Я. Цумараў. Аргкамітэтам выпрацаваны праекты праграмных дакументаў і прынята рашэнне 10 верасня гэтага года склікаць Устаноўчую канферэнцыю патрыятычных, нацыянальна-культурных аб'яднанняў і зямляцтваў Савецкага Саюза з удзелам замежных гасцей, якія будуць удзельнічаць у скарынаўскіх юбілейных урачыстасцях.

Хацелася б, каб гэты сход быў як мага больш прадстаўнічы, каб на яго, кажучы ўмоўна, здолелі з'ехацца беларусы ад Балтыкі да Атлантыкі. І ў згуртаванні беларусаў свету павінны быць зацікаўленымі самыя шырокія грамадскія колы, а таксама прадстаўнікі ўлады суверэннай беларускай дзяржавы. А гэта магчыма толькі пры ўмове, што мы не на словах, а на самой справе клапоцімся пра самазахаванне сябе як нацыі, пра духоўнае адраджэнне сябе, свайго народа. Але стварэнне Згуртавання, апрача гэтага, мае і чыста матэрыяльны, эканамічны сэнс. Рэспубліка, набываючы эканамічны і палітычны суверэнітэт, не можа абыйсціся без узаемавыгаднага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі, а нашы фабрыкі і заводы — з замежнымі фірмамі і прадпрыемствамі, без доступу да перадавой тэхналогіі. І тут сапраўды братняя, сапраўды шчырая і зацікаўленая дапамога беларускай эміграцыі, да якой мы прылічаем і прадстаўнікоў іншых народаў, выхадцаў з Беларусі, можа быць неацэнная. У перспектыве «Бацькаўшчына» мае намер займацца эканамічнай дзейнасцю, добра ўсведамляючы, што для рэалізацыі нацыянальна-культурных інтарэсаў і патрэб неабходны сродкі. Пакуль што мы іх не маем і таму звяртаемся з просьбай да зацікаўленых асоб, устаноў і прадпрыемстваў падтрымаць нашы пачынанні, пералічыўшы грошы на рахунак 700 510 Белжылсацбанка з паметкай Аргкамітэту «Бацькаўшчына». Даведкі можна атрымаць па тэл. 33-25-11, пісьмова звярнуцца на адрас: 220005, Менск, ГСП, завулак Румянцава, 13.

Старшыня Аргкамітэта «Бацькаўшчына»
Яўген ЛЕЦКА.

*Гартаючы старыя выданні*

## Колькі слоў аб нацыянальным адраджэньні забытага народу

«У Ігіпце ў магілах калісьці знайшлі жменю пшанічных зярнят. Праляжалі яны там некалькі тысяч гадоў і ўсё ж такі, як іх пасеялі, зярняты ўзыйшлі і далі ўраджай. Усё, у чым толькі ёсьць пачатак жыцьця, можа ажыць, калі зложацца патрэбныя варункі; гэтак бывае і з народамі. Як вучыць гісторыя, не адзін ужо народ, які зваявалі насільствам, зацікнулі бясправўем, і які, здавалася, саўсім памёр,— разам адрадзіўся, і дух народу, прачнуўшыся ад доўгага сну, уставаў на новае жыцьцё. А раз уваскросшы, кожная нацыя мае ўжо такую сілу; нацыянальнае пачуцьце робіцца такое моцнае, што нягледзячы на ўсе перашкоды, заўсягды прачысьціць народ сабе дарогу да новага жыцьця...»

Гэтак піша рускі вучоны прафэсар А. Погодін, і ягоныя словы маюць вялікую цану для нас, беларусаў: мы пачынаем жыць другі раз, нанова...

І як зярняты ўзыйшлі і далі ўраджай, так народ беларускі ўваскрос і йдзе да новага жыцьця. «А на гэтай дарозе,— кажа праф. Погодін,— нішто ня мае сілы затрымаць беларусаў!»

(Наша Ніва. Вільня, 25 верасьня 1908 г., № 20)

Заканчэнне на с. 14.

# ЗАХАВАЦЬ НАРОДНУЮ СПАДЧЫНУ

Адным з самых балючых пытанняў нашага часу стала пытанне аб захаванні акаляючага асяроддзя — натуральнай умовы далейшага існавання і прагрэсу чалавецтва. Аднак акаляючае асяроддзе, як пра гэта не раз пісалася, не зводзіцца толькі да прыродных фактараў. Не меншае значэнне мае гістарычнае, моўнае і культурнае акружэнне, у кантэксце якога чалавек усведамляе сябе як паўнацэнная асоба. Разбурэнне яго вельмі часта прыводзіць да бездухоўнасці, якая займае бадай што першае месца ў спісе хвароб, што пагражаюць маральнаму здароўю сучаснага чалавека.

«Мова зямлі» панесла ў апошнія дзесяцігоддзі не меншыя страты, чым яе фізічны воблік. Калі ў адносінах да апошняга пераважалі вузкаведамасныя інтарэсы, то на лёс уласных геаграфічных назваў паўплывалі валюнтарызм і неўтаймаваныя амбіцыі некаторых кіруючых асоб, што хацелі пакінуць свой «аўтограф» на карце «падначаленай» ім тэрыторыі. Немалую ролю тут адыгрывала часам малакампетэнтнасць і ўвогуле невысокі ўзровень ведаў пра гісторыю назваў, іх месца і функцыі ў жыцці і культуры народа. Моваведы і краязнаўцы рэспублікі, трэба гэта прызнаць, яшчэ мала зрабілі для ліквідацыі тапанімічнай непісьменнасці шырокіх колаў грамадства. У значнай ступені гэтым можна вытлумачыць даволі абыякавыя адносіны жыхароў тых або іншых вёсак, пасёлкаў, гарадоў да шырокай хвалі перайменаванняў. Пад пагрозаю знішчэння аказаўся традыцыйны тапанімічны ландшафт Беларусі, які складваўся на працягу многіх стагоддзяў. Бо не ўсюды яшчэ мясцовыя жыхары так зацята адстойвалі свае назвы, як гэта рабілі калгаснікі вёскі Юравічы, якую нехта яшчэ ў 1939 годзе вырашыў перайменаваць у населены пункт імя Шчорса, пра што пісала «Звязда». Гэты адвольны акт паказаў не толькі непавагу да людзей, але і поўную недасведчанасць яго ініцыятараў адносна тых элементарных патрабаванняў, якім павінна адпавядаць уласная назва населенага пункту, не гаворачы ўжо пра няведанне тыповых для данай мясцовасці тапанімічных мадэляў. Сапраўды, як утварыць прыметнік ад такой «экзатычнай» назвы, напрыклад, для называння сельсавета — «Імяшчорсаўскі»? А жыхар гэтай вёскі — «імяшчорсавец»?

Хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адзін бок гэтай справы. У сувязі з дэмакратызацыяй нашага жыцця ўзнікае пагроза выкарыстання такой тапанімічнай недасведчанасці ці малапісьменнасці шырокіх колаў людзей тымі, хто прыстасоўваецца да перабудовы, захоўваючы старыя звычкі і мэты. Сапраўды, хто зможа запярэчыць сходу жыхароў пэўнага населенага пункта ці вуліцы, які падтрымае ўнесеную прапанову аб перайменаванні ці іншай пераробцы культурнага асяроддзя? Што гэта рэальная пагроза, сведчыць канкрэтны выпадак такой маніпуляцыі дэмакратычнымі прынцыпамі нашага грамадства. Некалькі гадоў таму назад пад шматабяцаючым загалоўкам «Парк заглядывает в окна» ў рубрыцы «Совет местный — дела государственные» (!) газета «Знамя юности» апублікавала нататку, якая пачынаецца так: «Микрорайоном Заречный стал называться по решению Мозырского горисполкома посёлок Пхов, расположенный на левом берегу Припяти. Перемены начались с приходом на завод нового директора. Е. В. Тарасов возглавил и депутатский совет посёлка...».

Ізноў мы сутыкнуліся з адміністрацыйным свербам, ахвярай якога сталі многія гістарычныя назвы гарадоў, вёсак, вуліц і г. д. Бо нікога не павінна ўводзіць у зман тое, што нечая жалю годная прыватная ініцыятыва знайшла рэалізацыю ў пастанове Мазырскага гарвыканкома. Бачыце, паводле іх уяўленняў, мікрараён ніяк не можа захаваць арыгінальную гістарычную назву і павінен быць «перахрышчаны» паводле самых распаўсюджаных бюракратычных мадэляў тыпу безаблічных Заходні, Цэнтральны, Зарэчны або казённа-аптымістычных Сонечны, Светлы, Жамчужны!.. Прыклад сталіцы, дзе, нягледзячы на праяўленні валюнтарызму ў адносінах да ўласных назваў, усё ж захаваліся Чыжоўка, Серабранка, Дражня, Шабаны і нават Камароўскі рынак, для Мазыра не падыходзіць! У сваім адказе на маё пісьмо ў «Звязду» старшыня Мазырскага гарвыканкома І. А. Кенік апраўдвае перайменаванне тым, што «изменилась экономическая, социальная, географическая (поселок Пхов с поселком Неначь — соединились) структура микрорайона», дзе асноўную ролю стаў іграць завод меліярацыйных машын. Яшчэ тым, што сама назва Пхоў не вельмі старажытная («наименование микрорайона Пхов не носило исторической смысловой нагрузки»), паколькі ўзнікла ў пачатку нашага стагоддзя як скарачэнне «Портово-хозяйственное объединение водников». Недарэчнасць такіх «абгрунтаванняў» відавочная, бо такія змены за апошнія дзесяцігоддзі адбыліся амаль з усімі населенымі пунктамі рэспублікі.

Задача ТБМ далучыць да гэтай справы шырокую грамадскасць, навукоўцаў і ў першую чаргу мясцовыя суполкі, бо наступленне на тапанімічную народную спадчыну працягваецца. Акрамя мазырскага «арэала перайменаванняў», узнік другі, баранавіцкі «арэал імёнатворчасці», дзе апошнім часам актыўна дэфармуецца наш тапанімічны ландшафт шляхам навязвання неўласцівых мясцовым назвам мадэляў. Нягледзячы на тое, што грамадскасць ужо асудзіла з'яўленне на карце рэспублікі недарэчнай назвы пасёлка Жамчужны, у тым жа рэгіёне адбылося «хрышчэнне» новага пасёлка. Газета «Голас Радзімы» 11 жніўня 1988 года паведамляе: «Пасёлак Красназнаменскі яшчэ не нанесены на карту рэспублікі. Але яго будучыя жыхары — работнікі Баранавіцкага прыгараднага цяплічнага камбіната ўжо атрымалі ключы ад кватэр». Такім чынам, у рэспубліцы з'явілася чарговая тапанімічная пачвара — гібрыд казённа-бюракратычнай параднасці і русіфікацыйных тэндэнцый. Замест шматвяковай «мовы зямлі» — тапанімічная «трасянка»! Фантазія адміністратараў з Баранавіч ніяк не можа вырвацца за межы казённага аптымізму, пра што сведчыць чарговы яе прадукт. Як паведаміла газета «Чырвоная змена» 5 чэрвеня г. г., «хутка на карце рэспублікі з'явіцца назва новага пасёлка — Янтарны», дзе будуць жыць работнікі прадпрыемства па комплекснай перапрацоўцы прадукцыі пчалярства. Ці доўга яшчэ будуць працягвацца падобныя эксперыменты? Няўжо новыя пасёлкі ўзнікаюць на пустым месцы, а не на месцы палёў, урочышчаў і сенажацяў, кожны куточак якіх шмат вякоў таму назад назвалы нашымі продкамі? Ці нельга сярод шматлікіх мясцовых тапонімаў і мікратапонімаў знайсці для новага пасёлка падыходзячую назву, не чынячы гвалту над «мовай зямлі»? Як відаць, гэтыя пытанні застануцца рытарычнымі да таго часу, пакуль

Заканчэнне на с. 10.

## З НАТАТНІКА МОВАЗНАЎЦЫ

# ПРА НАРОДНУЮ МОВУ МАСТОЎШЧЫНЫ

### Асаблівасці гаворак паўднёва-мастоўскага арэалу

Гаворкі населеных пунктаў Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці на поўдзень ад ракі Нёман уваходзяць у паўднёва-заходні дыялект. Акрамя яркіх моўных асаблівасцяў, характэрных для гэтага дыялекту ў цэлым, яны маюць і свае адметныя, непаўторныя рысы.

1. Шырокае выкарыстанне выбухнога г' пераважна ў галіне запазычанай лексікі: Агата, арганіс — арганізм, вагончык, газовачка, гардзяле — ланцуг з дубцоў, газэта, грузаўка — камяк, грош, губэрня, гузік, гума, дрэзга — лучына, дзынгнуць — зазваніць, зьдзьвігі — зрухі, магнітафон, магазін, нігды, саган — чугун, сыгнал, швагяр і інш.

2. Захаванне цвёрдага *е* ў словах тыпу губэрня, газэта, Амэрыка: У Томскуй губэрні далі ім месцо (в. Мікелеўшчына); газэт мы тады ні чыталі (в. Дашкаўцы); з Амэрыкі таляраў прывёз (в. Алешавічы).

3. Дзеяслоўны канчатак *-ці* ў 3-яй асобе адз, ліку цяп. часу: Оляка ўжэ галава пат трактарам ляжыці (в. Мікелеўшчына); а потым атходзіці і будзя казаці (в. Патока). У помніках старабеларускай пісьменнасці, выданнях Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага асноўнай дзеяслоўнай нормай быў мяккі канчатак -ть: береть, говорить, лежить... (Мова беларускай пісьменнасці, Мн., 1988).

4. Мяккая аснова назоўнікаў, якія ўжываюцца ў спалучэнні з лічэбнікам: дзьве змені, тры карові (в. Мікелеўшчына). Такія формы зафіксаваны ў старабеларускіх пісьмовых помніках: а запрагли две корови тельные (Хроніка Бельскага, пач. XVII ст.).

5. Ужыванне назоўнага склону замест роднага: Ціпер сынэ і ўнукі сібіракамі завуць; дзесяць працэнтаў дзеці, каторыя мелі свае кнішкі (в. Мікелеўшчына).

6. Ужыванне вінавальнага склону замест творнага: за рускім часам перад вайну (в. Мікелеўшчына).

7. Зборны назоўнік *грошмі* ў творным склоне: сілай ціпер ніхто ні робіць хаты, але *грошмі* (в. Мікелеўшчына).

8. Сінтаксічныя канструкцыі з паўторным прыназоўнікам ці злучнікам: Агата стаіць *на* парозі *на* сваём; Адзеты здатно *і* прыйшоў *і* кажа (в. Мікелеўшчына).

9. Ужыванне канструкцыі «прыехаць з чым-н.» у значэнні *прыехаць на чым-н.*: немцы прыехалі з машынамі (в. Мікелеўшчына); прыехала з аўтобусам на першу гадзіну (в. Алешавічы).

10. Ужыванне ўласна-асабовага займенніка *мне* (Д. скл.) і ўказальна-асабовага *ёй* (д. скл.) у значэнні да мяне, да яе: прыйшла яна мне ў хату (в. Мікелеўшчына); на пятуй ёй нядзелі едзя дочка (в. Патока).

11. Прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэнні.

Кожны як хоча, так па свайму бацьку плача (в. Алешавічы).

Маўчанне не пушыць і ўсю справу патушыць (в. Патока).

Гэта так праўда як тое, што сабака сакеру зьеў, а тапарышча на гору закінуў (в. Патока).

Чысто мало. Вельмі мала. А хлеба ён гетаго чысто мало ён ужэ есь ні мох (в. Мікелеўшчына).

Да касы. У час касьбы. А мужыку да касы перагоначкі сіняі (в. Мікелеўшчына).

Адзявацца ручною работаю. Апранацца ў саматробнае адзенне. Адзяваліся людзі ручною работаю (в. Мікелеўшчына).

Пазычыць у сабакі вачэй. Мець сорам за які-н. учынак. Ля, брыдко мне было, хоць ты ў сабакі вачэй пазыч, алі пайшла (в. П.-Масты).

Разумны як Саламонаў гузік. Насмешліва пра таго, хто лічыць сябе надта разумным (в. Мікелеўшчына).

Байкі-байкі. Адказ, калі просяць выбачыць. У знач. нічога не было, усё добра, выбачаю.

Альбіна ХРОМЧАНКА.

---

Заканчэнне. Пачатак на с. 9.

грамадскасць, і ў першую чаргу актывісты ТБМ не возьмуць пад свой кантроль гэтую важную справу.

І яшчэ адна праблема, якая датычыць зберажэння тапанімічнай спадчыны Беларусі. Як вядома, яна была ў значнай ступені дэфармавана ў выніку свядомага і несвядомага (ад няведання ці неразумення мясцовага вымаўлення) скажэння або пераробкі пад уплывам іншамоўных узораў. Так з'явіліся Круляўшчызна, Навагрудак і іншыя варыянты назваў у спаланізаванай форме, нягледзячы на тое, што ў бліжэйшым наваколлі карэннае насельніцтва называла, а ў шмат якіх выпадках і цяпер карыстаецца старажытнымі беларускімі назвамі. Пазней значныя скажэнні ці пераробкі ў тапанімічны ландшафт унеслі царскія чыноўнікі і афіцэры Генеральнага штаба, якія складалі падрабязныя карты Беларусі. Нягледзячы на тое, што многія з гэтых назваў замацаваліся ў свядомасці людзей як адзіныя, яны ў многіх выпадках нясуць на сабе адбітак «каланізацыі» і чужароднасці. Ці можна ў гэтым выпадку ставіць пытанне аб іх замене і ўзнаўленні спрадвечных назваў? Здаецца, што для шмат якіх важных з гістарычнага пункту погляду назваў такая пастаноўка пытання адпавядае сучаснаму стану нашай самасвядомасці. Аднак тут трэба падыходзіць вельмі абачліва і навукова абгрунтавана, бо не кожная назва паддаецца рэанімацыі. Але ў адносінах да вядомых гістарычных цэнтраў, такіх, як Гродна (Гародна, Горадна, Гародня, Горадзен), Брэст (Бярэсце, мясцовае Бэрэсць), Навагрудак (Наваградак) і інш., мэтазгодным здаецца ўвядзенне, на першым этапе як варыянтных, народных назваў. Такая тэндэнцыя характэрна для многіх краін свету і адпавядае сучасным прынцыпам перадачы тапанімічных назваў у форме, максімальна набліжанай да мясцовага вымаўлення. Для нашай рэспублікі, дзе двухмоўе з'яўляецца рэальнасцю, важнае значэнне мае дакладная перадача беларускіх геаграфічных назваў на рускай мове. Тут яшчэ многа трэба зрабіць, бо адрыў рускага напісання і вымаўлення ад зыходнай формы ўрэшце ўплывае і на беларускае напісанне і вымаўленне. На жаль, падрыхтаваная навуковым супрацоўнікам Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута геадэзіі, аэраз'ёмкі і картаграфіі (Масква) З. В. Рубцовай «Інструкцыя па рускай перадачы геаграфічных назваў Беларускай ССР», якая грунтуецца на сучасных тэарэтычных прынцыпах транскрыпцыі і вялізным матэрыяле, сабраным шляхам анкетавання і вывучэння розных крыніц, блакіруецца чыноўнікамі з апарату Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, якія арыентуюцца на звыклыя яшчэ з дарэвалюцыйнага часу спосабы перадачы беларускіх геаграфічных назваў на рускай мове. Думаю, што наспеў час, каб гэтай справай зацікавіць шырокую грамадскасць рэспублікі, таксама як і праблемай вяртання старых назваў гарадоў, вёсак, вуліц і г. д. Патрыятычны абавязак кожнай суполкі ТБМ узяць на сябе вывучэнне і ахову мясцовай тапанімічнай спадчыны, а таксама грамадскі кантроль над перайменаваннямі старых аб'ектаў.

Генадзь ЦЫХУН.

*Адказы на пытанні, прапанаваныя Саюзам пісьменнікаў Беларусі.*

1. Што Вы думаеце пра лёс беларускай мовы і культуры?
2. Якія галоўныя пачуцці агортваюць Вас у дні Свята славянскага пісьменства і культуры на беларускай зямлі?




Сямён ШУРТАКОЎ

Перадусім пра самую Беларусь, пра маё, так бы мовіць, асабістае стаўленне да яе.

Ледзьве не ўсе самыя жахлівыя, самыя спусташальныя войны прыходзілі ў Расею з Захаду, і таму самай пакутнай зямлёю была беларуская зямля. Ці не найцяжэйшыя страты зведаў беларускі народ і ў апошняй (дай Бог — апошняй!) вайне: хтосьці лічыць — загінуў кожны чацвёрты, хтосьці — кожны трэці жыхар рэспублікі. Загінулі на фронце, у партызанах. У голым стэпе шмат не напартызаніш; партызанская вайна вялася галоўным чынам у беларускіх лясах.

Вялікія страты і на Украіне, і ў Расеі. Але і ўкраінцы, і расейцы маюць большую колькасць людзей, чым беларусы, таму іх страты, калі можна так сказаць, адчуваюцца не вельмі балюча. Калі ў сям'і з дзесяці загінула тры, няхай нават чатыры чалавекі, ёй усё-ткі лягчэй ачуняць, чым сям'і, дзе з траіх застаюцца толькі два...

Навошта гэты ўступ, які, здавалася б, не мае непасрэднага дачынення да пытання? Ды каб лягчэй было растлумачыць маё ашаламленне, амаль фізічны боль, якія я адчуў, калі на адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў у Маскве пачуў у выступе Ніла Гілевіча, што на Беларусі амаль не засталося школак, у якіх дзетак вучаць на роднай мове. Што за бязглуздзіца?! Вялікі ці малы на людзей народ, але пакуль ён мае сваю мову,— ён народ. Няма мовы — няма народа!

Раней я быў на Беларусі адно мімаходзь, лічы, што не быў. І ведаў родную сястру маёй Расеі пераважна праз агульныя славянскія карані нашае культуры, праз гістарычныя крыніцы. Зразумела, ці дрэнна, ці добра, ды ведаў я і беларускую літаратуру, асабліва паэзію, здаўна цікавіўся багатым беларускім фальклорам. І калі не ўсё, дык вельмі шмат што было для мяне блізкае і зразумелае, выклікала ў маім сэрцы гарачы водгук.

Цяпер я жахаюся, што новыя пакаленні беларусаў не будуць ведаць сваёй мовы? Гэта ж значыць, яны не будуць ведаць ні свае нацыянальнай літаратуры, ні песняў, якія спявалі іх бабулі і дзяды, і нат народныя казкі будуць чытаць у перакладзе? Ды ці песні і казкі — галоўнае! Не ведаючы роднай мовы, яны ж не спазнаюць сябе, бо мова — гэта не проста пэўная колькасць слоў, якія вызначаюць назвы навакольных прадметаў, у мове тоіцца гісторыя і філасофія народа, яго думніцтва і духовасць, яго разуменне дабра і зла, жыцця і смерці... Я паставіў шматкроп'е не таму, што дарэшты сказаў пра шматзначную глыбіню мовы; яна, тая глыбіня,— невычэрпная!

Так, пэўна ж, нядрэнна ведаць расейскую мову: краіна наша шматнацыянальная, і каб, напрыклад, той самы беларус разумеў грузіна і ўзбека, а тыя ў сваю чаргу, разумелі яго,— расейская мова і служыць добрай справе міжнацыянальных зносін. У дадатак, на расейскай мове створана вялікая літаратура, і знаёмства з ёю ў арыгінале, без перакладу, таксама нікому не пашкодзіць, адно дадасца ведамі. Ці магчыма песні і казкі свайго народа чуць або чытаць у перакладзе? Бязглуздзіца, лухта. Яшчэ раз паўтару: няма мовы — няма народа!

Скончаючы адказ на першае пытанне, скажу: мяне агортвае пачуццё смутку і трывогі за лёс беларускае мовы, і я ад шчырага сэрца зычу ёй адраджэння і росквіту. Лічу, школьнае навучанне на нацыянальнай мове рэспублікі павінна быць абавязковым. І наўрад ці праўна ў гэтай, дзяржаўнай важнасці, справе спасылацца на «объективную» прычыну, на жаданні бацькоў, на тое, што яны, маўляў, выбіраюць для сваіх дзяцей «русские» школы. Няхай пры развіцці дэмакратыі вырашаюцца рэферэндумам усялякія пытанні, але толькі не пытанне, ці ведаць украінцу ўкраінскую мову, грузіну — грузінскую, а беларусу — беларускую, родную, спрадвечную!

А яшчэ дарэчы будзе звярнуцца ў нашу не вельмі далёкую мінуўшчыну і згадаць, як старэйшым пакаленням цягам дзесяцігоддзяў праз няўпынную і магутную прапаганду навязваліся хлуслівыя ідэалагічныя ісціны. Расейцаў, без усялякіх падстаў, страшылі пужалам «великодержавного шовинизма», іншыя народы запалохвалі «местным национализмом». Усе нацыянальныя культуры па завядзёнцы лічылі адзінароднымі або, як бы зараз сказалі, адназначна сацыялістычнымі паводле свайго зместу, і чакалася іх хуткае зліццё. Але калі мова ледзьве не галоўны элемент культуры, дык навошта клапаціцца пра развіццё мовы ў нацыянальных рэспубліках, гэта ж можа адно пашкодзіць у заўтрашнім або пазазаўтрашнім «слиянии»...

Я анічога не хачу згусціць. Рэха тых сацрэалізмаўскіх неаспрэчнасцяў можна пачуць і ў нашыя дні. Нядаўна ў штотыднёвіку «Книжное обозрение» надрукаваны верш «Рідна мова», дзе аўтар пасміхаецца з тых, хто «защищает рідну мову» замест таго, каб напачатку паклапаціцца пра пад'ём эканомікі, пра рашэнне праблемы дэфіцыту — тым больш, што слоўца гэтае, як і шмат іншыя («талон», «спекулянт»), гучаць, маўляў, аднолькава і па-расейску, і па-ўкраінску. «Дома не строят с крыши»,— павучальна настаўляе складальніца верша малацямных чытачоў. Ці не відочнае гэта пацвярджэнне сказанага вышэй? Ужо калі людзі — і паэтка, і рэдактары,— якія маюць прамое дачыненне да мовы, не разумеюць, што яна — не дах, а падмурак нацыянальнай культуры і духовасці, дык што казаць пра бацькоў без філалагічнай ці нейкай іншай адукацыі, пра бацькоў, якім увесь час даводзіцца болей ужываць мову тэрмінаў, без колеру, без крыві, словы, што сапраўды аднолькава гучаць і па-расейску, і па-ўкраінску, і па-беларуску, пра бацькоў, што не зведалі шчасця дзедзічаў—

Заканчэнне на с. 14.

*Да 80-годдзя з дня нараджэння Ларысы ГЕНІЮШ*

# ЦВІЛІ «ЮРГІНІ» КАЛЯ ХАТЫ

Стынь і вецер, мокрае лісце пад нагамі. І цемра. У гэткі восеньскі час цёмна ў нашых гарадах і гарадках, дык што ўжо тут казаць пра мястэчка! Шэрыя стрэхі і шэрыя сцены хат, здаецца, яшчэ больш згушчаюць каламазную непрагляднасць. Добра, што хоць вокны цэдзяць праз фіранкі сякое-такое святло. Дык дзе ж тая вуліца, дзе той дом?

І ўсё-ткі знайшоў. Стаю на ганку, шукаю гузіка званка. А як жа знойдзеш яго ў цемры? Стукаю ў дзверы. За імі пачуліся крокі, запалілася святло, бразнула засаўка.

— Заходзьце, — сказаў мне высокі мужчына і паказаў на дзверы ў хату.

Ой-ёй, як цёпла ў пакоі пасля імжыстае вуліцы. І не толькі ад напаленай грубкі, а і ад лагоднасці гаспадыні — паўнаватай, рухавай і гэтак добра знаёмай па здымку з кнігі «Ад родных ніў».

— Праходзьце, праходзьце, — падахвоціла яна мяне, калі я нерашуча спыніўся каля парога.

Я назваў сябе, сказаў, што не ўстрымаўся, каб не заехаць хоць на часінку па дарозе з Гародні дамоў.

— Скідайце паліто, — яна паказала мне на вешалку і падсунула крэсла да грубкі. — Абагрэйцеся з дарогі, а я тым часам прыгатую штосьці да вячэры. Не, не, куды вам ехаць, на ноч гледзячы. Ды і надвор'е ж якое!

І сапраўды, цеплыня, утульнасць не падахвочвалі пускацца зноў у дарогу. Дастаў з торбы свае гасцінцы — грампласцінкі з запісамі песень акадэмічнай капэлы і народнага хору. Іван Пятровіч, гаспадар дому, адразу захапіўся імі, паставіў перад сабою і доўга любаваўся маляўнічымі абкладкамі. За сталом, калі размова зайшла пра творчасць Ларысы Антонаўны, яна пацікавілася, якім чынам я ведаю яе вершы, бо яны, апрача невялікае нізкі ў «Полымі», не выдаваліся ў Беларусі? Праўда, не выдаваліся, але я маю зборнік «Ад родных ніў», які падараваў мне Янка Шутовіч у Вільні. Размова зацягнулася за поўнач. Вось табе і тыя гадзіна-дзве, на якія меў намер завітаць у хату.

На другі дзень развітаўся з гаспадарамі толькі ў поўдзень. Ларыса Антонаўна чытала мне свае новыя вершы. Уперамежку з імі расказвала пра перажытае. А яно было жахлівае. Не хацелася верыць, ды перада мною быў чалавек, які прайшоў праз усе кругі канцлагернага пекла (цяпер бы я сказаў — гулагаўскага). Адкуль жа было ў яе столькі сілы, у яе — жанчыны, створанай Богам, каб яе кахалі, шанавалі, каб яна раджала дзяцей, гадавала іх, цешылася імі, каб яна працягвала род чалавечы? І якія ж вылюдкі былі тыя, хто мясіў сваімі падкаванымі чобатамі ўсё гэта ў бруд, хто кідаў на здзек і глум жаноцкую годнасць, хто намагаўся вытруціць з няшчасных душ усё людскае, высакароднае! І якую ж моц душы трэба было мець слабай па прыродзе жанчыне, каб супрацьстаяць гэтаму, каб зберагчы чалавечнасць, веру ў людзей, веру ў перамогу дабра над злом!

Ды гэтая перамога дабра над злом была, ой, як не блізкая. Нават тут, у Зэльве, зло плішчылася праз дзверы і вокны, было ў пастаянным наступе. Памятаю, як турбавалася і як радавалася Ларыса Антонаўна, калі выходзіла яе кніжка «Невадам з Нёмана». «Разведайце, калі ласка, нешта аб маёй кнізе. Мела яна выйсці на 3500 вершаваных радкоў (такі прынамсі кантракт). Ці не скараціў яшчэ?» — пісала яна мне. Кніжку выдалі, і няблага. Адрэдагаваў яе Уладзімір Караткевіч. Была добрая, зычлівая рэцэнзія Адама Мальдзіса. Але адначасна вось тут заатакавала і зло. Пасыпаліся злосныя інсінуацыі, слоўцы са сталінскіх часоў. Але ўсіх перасягнула ў гэтым цкаванні адна асоба, якая без каліва сораму хвалілася, што, хоць кніга і добрая, ды ўсё ж яна спаліла яе. Яшчэ адзін новаз'яўлены Герастрат — у спадніцы!

Ларыса Антонаўна заўжды была рада гасцям. У гэткі час яна як бы маладзела, весялела. Адразу пачынала завіхацца, рупіцца, каб як найлепш прыняць людзей, пачаставаць іх. Усё спорылася ў яе руках. Неяк уранку давялося бачыць, як яна гатавала сняданак на кухні. Пякла блінцы. Вось гэта было сапраўднае майстэрства! Блінец як бы сам падскокваў з патэльні, перакульваўся і зноў клаўся на патэльню ўжо другім бокам. З радасцю сустракала яна гасцей і з прытоеным смуткам праводзіла. Але ці ўсе ж адудзячвалі дабрынёю за дабрыню, шчырасцю за шчырасць?

Аднойчы пры размове я недвухсэнсоўна акінуў позіркам сцены і куты хаты. Ларыса Антонаўна ўсё зразумела.

— Ат, — махнула рукою яна. — Мы ўжо не зважаем на гэта. Прызвычаіліся...

— Да іх «всевидящего глаза», да іх «всеслышащих ушей», — пажартаваў я.

Я і сам ужо стаў заўважаць, што варта было мне толькі завітаць сюды, як услед за мною адразу наведваліся ў хату то адна знаёмая гаспадароў, то другая. І ў кожнай была нейкая неадкладная патрэба. Ці не для візуальнай падстрахоўкі «ушей», каб чаго не правароніць?

І ўсё ж я заўжды пры нагодзе наведваўся ў старую хату Геніюшаў. А хата і сапраўды была старая ўжо. Ларысе Антонаўне даводзілася рабіць шмат намогаў, каб хоць крыху трымаць яе ў належным стане. «Я чуюся блага, усё працую фізычна. У гэтай старой, гнілой хаце няма познатку з мае работы, — пісала яна ў адным з лістоў да мяне. — Не магу нічога іншага рабіць, калі непарадак у гэтай хаце. Трэба вокны, падрубы, падбіць столь і г. д., а тут цяжка самой гэта зрабіць... Я вельмі стамілася, хочацца падумаць, пісаць, паехаць куды».

А куды ж паехаць? Да сына ў Беласток? Не так проста было ёй дамагчыся візы. У Мінск? У Мінску рабілася ўсё, каб яна не прыязджала сюды. Нават ганарар за кніжку паслалі поштаю, маўляў, навошта ж турбавацца, ехаць па яго. А на самай справе — каб як найменей было ў яе сустрэч з сябрамі, знаёмымі.

Але аднойчы мы вырашылі зрабіць паездку. У яе родныя мясціны. Настаўнік Дзярэчынскай школы Пятро Марціноўскі асядлаў свайго «жалезнага каня», Ларысу Антонаўну пасадзілі ў каляску, а я прымасціўся на задняе сядло і з «ветрыкам» паімчалі мы ў сінюю далячынь. А першаю ў гэтай сіняй далячыні была вёска Палаўкі. О, колькі шуму-гаму нарабілі мы сваім прыездам. З усяе вёскі беглі кабеты, каб пабачыцца з «нашай Лоркаю», як казалі яны. Талакою сабралі стол, за якім засядзеліся да паўночы. Былі ўспаміны, была весялосць, быў і ціхі смутак пры размове. А назаўтра мы сталі хадзіць па хатах — ледзь не кожная жанчына запрашала нас, каб паказаць сваё майстэрства — самаробныя «дываны»-посцілкі, якія вельмі любіла Ларыса Антонаўна. Дарэчы, у яе хаце ўсе ложкі былі засланы гэткімі ж цудоўнымі ўзорамі народнага ткацтва. І гэта рабіла хату яшчэ больш утульнай, неяк пасялянску абжытай.

А побач з Палаўкамі — Жлобаўцы. Колішняя сядзіба бацькоў Ларысы Антонаўны. Ад яе засталася толькі назва, бо самой сядзібы няма — толькі рэшткі падмурка, ганак, каля яго вялікі бэзавы куст.

Нішто, здаецца, не робіць гэткага гнятлівага настрою, як руіны. Руіны людскога жытла, руіны святыняў, руіны замкаў, руіны нашай мінуласці. А імі, гэтымі руінамі, поўніцца наша зямля. Ды яшчэ трэба дадаць руіны чалавечых лёсаў, руіны чалавечага духу. Руіны заўжды зарастаюць пустазеллем — чартапалохам, быльнягом, палыном. І калі яшчэ можна ўзняць з руін сядзібы, святыні, замкі, дык што рабіць з руінамі чалавечых душаў? Яны амаль не паддаюцца аднаўленню, мала гэтага — яны сваёй ланцуговай рэакцыяй руйнуюць яшчэ ўцалелыя душы іншых, сыплюць у іх насенне атрутнага пустазелля — маральнай спустошанасці, нацыянальнага нігілізму, рэнегацтва. Насенне гэтае цэлымі дзесяцігоддзямі культывавалася, адсартоўвалася, пялегавалася ягонымі сейбітамі. Яго ўсяляк усхвалялі, называлі высакароднымі і ўзнёслымі словамі. Каб зрабіць увесь край наш суцэльнай руінай духоўнасці, свядомасці, чалавечай годнасці. І сёння мы бачым пачварны, забойчы плён гэтых «сейбітаў».

А тады мы моўчкі стаялі на руінах сядзібы, дзе прайшло маленства і юнацтва Ларысы Антонаўны. Маркотна маўчала яна, маўчаў Пятро Марціноўскі, «Сяло не спіць, гараць агні здалёк, за імі дом мой, там



Ларыса ГЕНІЮШ

## РОДНАЯ МОВА

Мова родная, мова дзядоў!
Іншай мовы мы сэрцам не чуем.
Мілагучнасьцю любых нам слоў,
быццам музыкай, душы чаруеш.

Мы за вокнамі дзень залаты,
нашых рэкаў пявучыя хвалі,
роднай хаты сьвятыя куты
ў гэтай мове раз першы назвалі.

Мова наша — буйны цьветабой!
Пралілася ў ёй першая радасьць...
Словы матчыны сыпались ў ёй,
як пялёсткі з адцьвіўшага саду.

Любай песьняй старою гучыш
з-над калыскі, з гадоў тых дзяцінных,
салаўіным разьлівам ўначы,
звонам хваляў прыткой ручаіны.

З-пад вясковых прыветлівых стрэх
мілагучна зьвініш ад сьвітаньня,
бы дзявочы рассыпчасты сьмех,
быццам першае ў сэрцы кананьне!

Ты — вясною аквечаны луг,
шум дубровы магутны, пявучы,
непадайны сталёвы ланцуг,
што нам сэрцы нязломныя лучыць!

Так балюча і гэтак даўно
стогне любы народ ў паняверцы;
ты адна толькі ясным прадном
нам снуешся праз нівы, праз сэрцы.

Сьвяты прадзедаў ты нам адказ,
якім слаўна ў харомах гудзела!
Ты, як неба, як сонца, для нас,
ты, як наквецьцю сад заінелы.

Мова родная, мова дзядоў!
Іншай мовы мы сэрцам не чуем.
Мілагучнасьцю любых нам слоў,
быццам музыкай, душы чаруеш.

ніхто не свеціць...» — прыгадаліся мне словы з яе верша. Настрой гэтага верша неяк міжволі павёў мяне да ганка, дзе я стаў чытаць па памяці другі верш: «Нішто так не міла». Ларыса Антонаўна ўважліва слухала, а калі скончыў, заплакала і ціха сказала: «Дзякуй!» А вакол квітнела і зелянела лета, і гэта неяк расцерушыла маркотнасць. Ларыса Антонаўна ажывілася, стала расказваць пра колішняе жыццё на сядзібе, пра звычаі, якія былі заведзены тут.

І зноў ў дарогу — у Гудзевічы. У адным месцы папрасіла спыніцца, каб мы пабачылі забытыя ўсімі старасвецкія могілкі. Але ж і сапраўды — старасвецкія. Камяні паўрасталі ў зямлю, абымшэлі, ад магіл — ані знаку. Казала, што калісьці на адным з камянёў яшчэ бачыла ледзь прыкметны візарунак крыжа, але мы ўжо не маглі знайсці яго. І тут вось тыя самыя руіны мінуўшчыны.

Вечарэла, калі мы, запыленыя і здарожаныя, пад'ехалі да хаты настаўніка Алеся Балакоза. Гасцінны гаспадар выбег насустрач нам. Зноў да паўночы гамонка, а часам і спрэчкі. З Ларысай Антонаўнай час ніколі не доўжыўся. І толькі на трэці дзень адвячоркам мы вярталіся ў Зэльву.

Мінаў год за годам. Не стала Івана Пятровіча. Яшчэ задоўга да смерці ён з горыччу пісаў мне: «Вось я і дапрацаваўся... Здаецца больш ужо ня буду магчы працаваць — зусім аслабеў, а горш яшчэ тое, што мне тут, з ведамых Вам прычынаў, адмовілі прыняць заяву аб афармленьні на пенсію (...) Вы казалі, што ў СССР права на пенсію належыць усім працоўным, незалежна ад таго, якое грамадзянства яны маюць. Прашу Вас вельмі яшчэ раз даведацца і напісаць мне, як гэтая справа сапраўды выглядае і на якія загады ці параграфы я маю і мушу паклікацца». У міністэрстве сацзабеспячэння мне растлумачылі, што чалавек без грамадзянства, калі ён працаваў у СССР, мае права на пенсію. Далі азнаёміцца, з адпаведнымі законамі. І ўрэшце, нягледзячы на ўпартасць раённых чыноўнікаў, Івану Пятровічу была прызначана невялікая пенсія. Але якой цаною? Тузаннем нерваў, абіваннем парогаў у розных «инстанциях».

Ларыса Антонаўна засталася ў старой хаце адна. Адна са сваімі думкамі, журботаю, успамінамі, з самотнасцю ў доўгія восеньскія і зімовыя вечары. І толькі сіла волі, нязломнасць душы дазвалялі ёй брацца за пяро, з-пад яго выходзілі радок за радком, верш за вершам. Складала іх у шуфляду. На выданне кніжкі надзея была слабая.

...Зноў (які ўжо раз!) знаёмыя вуліцы Зэльвы, знаёмая хата. Як і раней, тут красавалі «юргіні» — любімыя кветкі гаспадыні. Але дзверы на замку. З-пад ганка вылез стары сабака, неахвотна гаўкнуў пару разоў і палез назад у сваё логва. Я памкнуўся ўжо ісці, калі ўбачыў Ларысу Антонаўку. Яна адчыніла веснічкі, зайшла ў двор. Ішла да ганка, натужна прыглядалася да мяне. Я ступіў насустрач ёй.

— Не пазнаяце, пані Ларыса?

— О, сябра Алесь! А я іду і думаю, хто ж гэта? Прабачце, што не пазнала адразу, недабачваю ўжо. У Ружанах была, вось вярнулася.

І на гэты раз думаў — заеду на пару гадзін. Але ж дзе там. Даўнавата не бачыліся, было пра што пагаманіць. А калі схамянуўся, што даўно ўжо час збірацца ў дарогу, Ларыса Антонаўна ўгаварыла застацца. Пазней ужо, калі мы павячэралі, яна прызналася:

— Як добра, сябра Алесь, што вы засталіся. Я хоць адну ноч пасплю спакойна, не буду баяцца.

— А чаго ж вы баіцеся, пані Ларыса?

— Ходзяць тут па двары нейкія, грукаюць у дзверы, часам гыркаюць: «Эй, поэтесса, ты еще жива!» або яшчэ што абразлівае. Калачуся ад страху, вось на ўсялякі выпадак і гэта трымаю пад ложкам, — яна дастала з-пад ложка і паказала мне сякеру.

О, Божа міласэрны! Колькі ж яшчэ мярзотнікаў на свеце, з дашчэнту зруйнаванымі душамі, азвярэлых да ўсяго, што не гэткае бруднае, нікчэмнае, п'янае, як яны самі! Не, яны не адчуваюць свае ганьбы, сораму, не ведаюць літасці ці проста звычайнай чалавечай прыстойнасці, як не адчуваюць усяго гэтага і тыя, хто нацкоўваў іх на бездапаможную, слабую, старую і самотную жанчыну. Яна вельмі верыла ў Бога, але Бог чамусьці маўчаў, не заступаўся ні раней, ні цяпер, як бы выпрабоўваў яе сілы крыжам, які яна несла цярпліва, з годнасцю і да канца.

У шуфлядзе быў ладны стос вершаў. Яна чытала мне іх увечары і назаўтра ранкам.

— Трэба вам укладаць зборнік, пані Ларыса, — параіў ёй.

— А хто ж яго надрукуе? — скрушна паківала галавою Ларыса Антонаўна. Не забывалася пра астракізм, які вялі на працягу многіх гадоў чыноўнікі ад ідэалогіі ў адносінах да яе. Але я ведаў крыху, што сёе-тое змянілася, што ў жалезабетонных ідэйных прынцыпах дзе-нідзе штосьці трэснула, сям-там з'явіліся новыя людзі, якія глядзяць на ўсё разважней. Хоць і пэўнасці цалкам не было.

— Трэба рыхтаваць кніжку, спадзявацца на лепшае.

Ларыса Антонаўна неяк пажвавела, твар яе засвяціўся надзеяй. Сталі яшчэ раз праглядаць напісанае, у адзін стосік адкладалі для кніжкі, у другі — тое, без чаго можна было абысціся. Потым спынілі гэты занятак — праца не на нейкія там гадзіны, і не на дзень. Падаў ёй думку, каб папрасіла Дануту Бічэль дапамагчы ва ўкладанні кніжкі, а калі згодзіцца, каб і адрэдагавала, дзе трэба. Праўда, Ларыса Антонаўна крыху сумелася: у Дануты ж і сваёй працы хапае, а тут давядзецца ўторкнуцца са сваёй просьбаю. Няёмка неяк... А мне думалася, што Данута зразумее, дапаможа, паспрыяе.

Кніжка потым выйшла за прыгожаю назваю: «На чабары настоена». Не ведаю толькі, хто прыдумаў яе: ці сама Ларыса Антонаўна, ці Данута, якая напісала і вельмі харошую прадмову да зборніка.

Я развітваўся з Ларысаю Антонаўнаю — гаспадыняю гасціннай хаты. Я не ведаў, не адчуваў тады, што развітваемся назаўжды. Яна правяла мяне да веснічак. Зноў самотная засталася ў старой хаце, каля якое гэтак прыгожа цвілі «юргіні». Азірнуўся на яе ссутуленую постаць, на хату, на кветкі і штосьці балюча зашчымела ў сэрцы.

Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

# ПРА НАС І НАШУ МОВУ

Заканчэнне. Пачатак на с. 11.

— шчасця таго, хто з рук продкаў атрымаў неацэнную спадчыну.

І вось у гэтым трывожным становішчы вельмі своечасова з'явілася маладое свята Слова — Свята славянскай пісьмовасці.

Сёлета гэтае свята прыйшло на Беларускую зямлю.

Але найперш чым гаварыць пра ўражанні, якія засталіся пасля свята, хацеў бы коратка сказаць пра тое, дзе, як і калі яно было праведзена ўпершыню. Неаднойчы даводзілася пераконвацца, што гэта мала каму вядома. Не трэба, як той казаў, далёка шукаць прыкладаў: паспрабуйце самі згадаць, у якім годзе была прынятая пастанова пра штогадовае святкаванне Дня славянскай пісьмовасці. Не згадаеце. І зусім не з прычыны дрэннай памяці. Папросту гэткай пастановы не было ні на вышэйшым, ні на якім іншым узроўні.

Свята з'явілася на свет не зверху, а знізу і ўпершыню адбылося ў запалярным Мурманску.

І тут адразу паўстае пытанне: а чаму менавіта ў Мурманску? Ад каго толькі я (удзельнік першага свята) не чуў гэтага пытання! У часе пісьменніцкага з'езда, памятаю, апантана дапытвалі сакратары абласных пісьменніцкіх арганізацый сярэдняй Расеі. «Вось дык прыдумалі: за блізкім светам, у горадзе з нейкай напалову расейскай назваю! А чаму не у Яраслаўлі або ва Уладзіміры?» «А што замінала вам, сябры, у сваіх гарадах з сапраўднымі славянскімі назовамі «прыдумаць» гэтае свята?» — адказваў я ўладзімірцам ды яраслаўцам. «Дык не было ніякіх... загадаў, ці што...»

Ніякіх загадаў не атрымлівалі і «прыдумнік» гэтага свята пісьменнік Віталій Маслаў, і сакратар Мурманскай пісьменніцкай арганізацыі Віктар Цімафееў, які з імпэтам падтрымаў добрую ідэю.

Было разаслана шмат запрашэнняў. Адгукнуліся, мякка кажучы, не ўсе. Нас, пісьменнікаў з Масквы, Волагды, Кастрамы, прыехала ўсяго адзінаццаць. Але з большага свята ўдалося. Галоўнае, праз сціплае святкаванне зачалася вялікая справа. Колькі ўсялякіх урачыстых дзён у нашым календары — цяжка падлічыць. Аднак свята культуры, на жаль, не існавала. Зараз яно ёсць.

Эстафету свята з Мурманска прыняла Волагда. У Волагды — Ноўгарад. У Ноўгарадзе наша свята, на шчасце, супала з Тысячагоддзем хрышчэння Русі. Ці трэба штосьці дадаваць да сказанага?

Летась свята ладзіла Украіна.

Пятага разу свята пісьмовасці і культуры адзначалася на Беларусі. Хаця і не вельмі вялікая, ды ўсё ж — гадавіна. І таму, што я браў удзел ва ўсіх папярэдніх святах, у мяне ёсць што і з чым параўнаць.

Глыбокае ўражанне ў мяне пакінуў незвычайны, дзяржаўны падыход да справы. Бралі ўдзел дэлегацыі і асобныя грамадзяне не толькі з розных гарадоў нашага Саюза, але з шмат якіх краін Еўропы.

З вялікай групай літаратараў і навукоўцаў мне давялося таксама пабываць у беларускай правінцыі — старадаўнім горадзе Тураве. Там быў закладзены помнік вядомаму славянскаму асветніку Кірылу Тураўскаму.

Шмат людзей сабралася на гістарычнай Замкавай гары, шчыра сустракалі тамтэйшыя жыхары гасцей, «частавалі» прыгожымі спевамі ды танцамі. І ўсё гэта не ў цесным домкультураўскім памяшканні, а на зялёнай траве, пад ясным блакітным небам. Гэтая карціна таксама застанецца ў маёй памяці, у маім сэрцы.

Няма сумневу, падняў аўтарытэт святу і надаў яму большую папулярнасць шырокі ўдзел у ім прадстаўнікоў царквы на чале з Мітрапалітам Мінскім і Гродзенскім Філарэтам.

Яшчэ ў Маскве і я, і мае таварышы, калі бралі ўдзел у пасяджэннях аргкамітэту, з большага ведалі, што беларусы рыхтуюцца да свята сур'ёзна, і ў нас меліся падставы чакаць поспеху. Цяпер дакладна можна сказаць, што поспех пераўзышоў нашы чаканні.

Дзякуй, Беларусь!

Пераклад з рускай мовы.

Заканчэнне. Пачатак на с. 8.

У Францыі, Нямеччыне, Англіі цяпер выдумалі людзі машыны, каб лётаць у паветры, як птушкі. І наша Вільня не адстае ад іх: гэтымі днямі неякія паны ў чыноўнікаў — Солоневіч, Кудэрскій і іншыя выдумалі ўжо праўдзівых беларусаў! Аб гэтай сваёй шчаслівай выдумцэ яны пасьпяшыліся аб'явіць усяму сьвету ў № 1574 «Виленскаго Вестника».

Гэтыя праўдзівыя беларусы закладаюць «Белорусское Общество». Як мы зразумелі, выйшла тут гэткая справа. Табарыства «Крестьянин» нядаўна зрабіла зьезд (гл. аб ім № 17 «Н. Н.»), каб здабыць для галоўнага камандзера «правых», дэпутата ад Віленскай губэрні Замыслоўскага ад імя народных вучыцялёў дакумэнт (як-бы прашэньне ў Думу), які падтрымаў бы «карысную» працу Замыслоўскага. Але з гэтага нічога ня выйшла: пан Кавалюк залішне перастараўся, бо зьезд выйшаў саўсім як сабраньне «саюзьнікаў», і народныя вучыцелі не паслухалі «Крестьянина», не пайшлі пад яго каманду. Вось тады некалькі членаў «Крестьянина» аддзяліліся ад яго і хочуць залажыць «Белорусское Общество», думаючы, што за новым найменьнем пойдуць і вучыцелі, і народ беларускі.

У «Віл. Вест.» пан Солоневіч тлумачыць, што людзі, якія зьбіраліся пад крылы «Крестьянина», не праўдзівыя беларусы. Яшчэ больш фальшывымі беларусамі лічыць ён тых, хто пішуць «Нашу Ніву», і гэта затым, што і (яны — дурныя і не разумеюць справы і 2) забралі ў галаву дурную думку, што беларусы — асобная нацыя, маюць сваю мову беларускую, культуру; і «нашы-ніўцы» праз усё гэта скора згінуць, як дым ад ветру... Ведаючы вось гэта пан Кудэрскій, Солоневіч і інш. закладаюць сваё «Белорусское Общество», каб народ не астаўся без камандзераў і ня згінуў. А камандзеры гэтыя, як яны кажуць, павядуць народ «на началах русской государственности», лічачы яго не за беларускі, а за рускі.

«Наша Ніва» ня раз ужо пісала, што мы шануем вялікую рускую культуру і вялікіх рускіх людзей, але ня любім абрусіцеляў, ды яшчэ з беларусаў. І нам здаецца, што не ўвесь народ беларускі ня пойдзе за імі — ці будуць яны называцца таварыствам «Крестьянин», ці «Белорусским Обществом», ці яшчэ іначай.

(Наша Ніва, Вільня, 11 верасьня 1908 г., № 19).

## КУЛЬТУРНЫЯ НАВІНЫ

**Беларуская мова ў Праваслаўнай Сэмінарыі ў Вільні.** Міністэрства Вераў і Асьветы прыслала Прав. Дух. Сэм. у Вільні расклад лекцыяў кналецьцю (1927/28 школьн. году). Паводле гэтага раскладу беларуская мова будзе выкладацца 16 гадзінаў (ад 2 — 9 клясаў улучна па 2 гадзіне).

У 1923 г. беларуская мова мела 18 гадз., летась 17 гадз., сёлета чамусьці так сталася, што асталося ў ёй усяго 8 гадз. і налета будзе 16 гадз.

Гэткую долю пераажывае беларуская мова ў школе, дзе гатуюцца пастыры для беларускага народу і дзе яна павінна быць моваю выкладовою.

— Курсы для вучыцялёў пачатковых школаў. Польская ўлада пастанавіла адчыніць курсы для беларускіх вучыцялёў будучых пачатковых школаў беларускіх. Відавочна, каб паказаць, што адносіны Польшчы да Беларусаў астануцца дагэтуляшнія і што ўлада мае на ўвеце (на ўвазе) не асьвету, але полёнізацыйную політыку, курсы мелі быць у Кракаве. У апошнім часе быццам улада хістаецца, ня ведаючы, ці дзяржацца ёй Кракава, ці мо згадзіцца на Вільню. Курсы маюць пачацца сёлета на пачатку лета. Цікаўна яшчэ, хто будзе вучыць беларускую мову на гэтых курсах, ці ўсё той жа «прысяжны» выкладчык гэтае мовы, што меней умее яе за сваіх слухачоў? Апрача гэтага д л я в у ч ы ц я л ё ў п о л ь с к і х ш к о л а ў б у д у ц ь л е т н і я к у р с ы б е л а р у с к а й м о в ы сёлета ў Нова-Сьвянцянах. Урадова кажацца, што заданьнем гэтых курсаў будзе — прыгатаваць польскае вучыцельства Зах. Беларусі да выпаўненьня цыркуляру мін. Бартля аб пашане да роднай ня польскай культуры вучняў і насяленьня. Але ці ж можна сумлявацца, што запраўднае заданьне ёсьць іншае, гэта — каб назначаць пасьлей п о л ь с к і х вучыцялёў у б е л а р у с к і я школы і гэткім парадкам нават у беларускіх школах праводзіць полёнізацыю.

Калі так, дык гэткія курсы зусім лішнія, бо каб зьдзеквацца з беларускай мовы і выклікаць нянавісьць да сябе і ўсяго, што польскае, вучыцельства гэтае даволі прыгатавана.

(Родныя Гоні, месячнік літаратуры й культуры Заходняе Беларусі, Вільня, 1927, кніжка 11 (красавік), с. 44-45)

Валянціна АКОЛАВА

# З ФАЛЬКЛОРНАГА ВЯНКА

## САНЕТАЎ «СЛУЧ»

### 14. МОВА

Зноў вясну сустракаць, як здзіўленне,
Будзе кожненькі зелень-лісток...
Мова, колькі ў цябе пакаленняў?
Дзе бруіцца твой славы вытoк?!

Дзе заўчора з вячора гавораць,
Дзе агонь пагарае-гарыць,
Дзе дзяўчаты вячоркі сну дораць,
Дзе ў зязюленькі крылца баліць?

Край случанскі — праменьчык радзімы,
Ты бясконца былінны і дзіўны.
Пакуль мамы пяюць калыханку
І вітаюць буслыновы дзень,
Мая Мова, ідзі да Людзей:
Ад святла да начы і да ранку!

1986 г.

Людміла ПАЎЛІКАВА

# ДУША БЕЛАРУСА

Няхай надзялялі нас доляй
сярмяжнай,—
па шчодра адкроеных лустах,
па ўсмешцы,
што ў вуснах мільгне сарамяжна,
згадаю душу беларуса.

Пазнаю па слову,
што выблісне раптам
у мове чужой — залацінкай,
пазнаю па трапных і з'едлівых жартах,
прыязнасці шчыра-гасціннай.

Згадаю па працы — заўзятай,
руплівай,
па бульбе на белым абрусе,
па чыстае хаце,
па ніве ўрадлівай —
згадаю душу беларуса.

Адчую ў пагардзе да славы і чыну,
да ўсякай раскошы пыхлівай,
злаўлю ў прыхаваным паглядзе
жанчыны,
што ранкам —
прачнецца шчаслівай.

Убачу ў спагадзе без хуткіх
папрокаў...

І нават, калі памылюся,
то, пэўна, сябры, або жонка, ці
продкі —
а, значыць, і ты —
з Беларусі!

Генадзь ТУМАШ

# ПАГОНІЧЫ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах,—*
*Успомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

Максім БАГДАНОВІЧ.

У Краіне роднай дух ускрос Пагоні,
Рыцары-Пагонічы лятуць у бой,
Ваяры на конях узнялі паходні,
Каб свяціць нязгаснай праўдай векавой.

Палымнеюць сэрцы вераю праўдзівай,
Пагляндзі, нашчадак, на агонь святы,
Па-сыноўску ахвяруй сябе Радзіме,
Што не знала колісь рабскай нематы.

Памяці паходню запаляй у сэрцы,
Вызваляй Краіну з цемры забыцця.
Знішчылі святыні клятыя імперцы —
Ні слядоў, ні гукаў слыннага быцця.

Ядзерная зброя — явішча навалы,
Лёг цяжар магільны на палонны Край.
Множ, ваяр, Пагоню ў бітве небывалай,
Бег каня, радзімца волі, прыспарай.

Спусташае Бацькаўшчыну «мірны» атам —
Нацыі магільшчык, новы акупант:
У магілах гнёзды — нашы вёскі, хаты,
Напамін рабам — чарнобыльскі мутант.

Толькі незалежнасць нам дае збавенне,
Хай лунае бел-чырвона-белы сцяг,
Родная зямелька прагне вызвалення —
Пракладай, змагар, у рабскіх душах шлях.

Ёрмы з нас скідае колішняя воля,
Белая Пагоня рвецца з даўніны,
Жахі падняволля падганяюць вояў,
Вольнасць ратаваць лятуць з вякоў сыны.

Знак лучбы святое — гнеў людскі, народны,
Гул зямны чуваць ад коней баявых,
Зззяюць, зіхацяць шчыты, мячы, паходні,
Продкаў дух вячысты акрыліў жывых.

Яснаце ты сэрцам і душою рады,
Пакідаюць міфы вольны розум твой,
У цябе Пагоню ўкралі канакрады,
Славу, што здабыта нашаю крывёй.

Клічкаю імперскай, клічкаю казённай
Ганьбавалі Край забраны чужакі,
І дзяржаўнай назвы велічнай, законнай
Нас пазбавілі зладзеі на вякі.

Рыцары-Пагонічы ўсяе Краіны
Волю Бацькаўшчыне мчацца здабываць,
Клічуць вояў незлічоныя руіны,
Загула пад конямі векавая гаць.

Зграям не падолець агнявой Пагоні,
Грозна неабсяжная зямля грыміць.
Зоркамі здалёку свецяцца паходні,
Хмарам, ветру, сонцу іх не патушыць.

## «КАЛІ БАСТУЮЦЬ ВЫДАТНІКІ»

Артыкул з гэткай назваю я прачытаў у газеце «Звязда» 30 мая і жахнуўся. Сорак адзін год працую выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры і добра ведаю пра гаротнае становішча з родным словам у навучальных установах рэспублікі. Разумею дацэнта Анатоля Хвядосавіча Майсеенку, які, прымаючы экзамены, імкнуўся выявіць глыбокія веды па беларускай літаратуры: студэнты ж — будучыя выкладчыкі спеваў, харэографы.

Да гэтага часу школкі маюць вялікую бяду са згаданымі спецыялістамі. Выкладчыкі спеваў і ведаць не жадаюць беларускай мовы, беларускіх песень, яны прынцыпова грэбуюць нашым фальклорам. Чатыры апошнія гады звяртаюся да дырэктара Гудзеўскай школкі з просьбаю: хаця крыху дапамажыце ў падрыхтоўцы Купалля, якое мы аднавілі і ладзім на вёсцы з 1986 года. На жаль, дырэктар не можа дамагчыся, каб выкладчыца спеваў хаця чымсь мізэрным дапамагла нашай справе. Яна не хоча вучыць дзетак па-беларуску, развучваць з імі беларускія песні. Робяць гэта людзі, якія ніколі не адукоўваліся ў «культпрасветах», людзі, якія паводле сваіх службовых абавязкаў павінны займацца іншымі справамі. Таму мне зразумела, чаму дацэнт А. Хв. Майсеенка не мог паставіць «здавальняюча» тым студэнтам, якія не засвоілі курс беларускай літаратуры.

Абурылі мяне ў публікацыі выказванні выконваючага абавязкі загадчыка кафедры тэорыі і арганізацыі кіравання культасветработай А. С. Зубры. Ён кажа:«Мы рыхтуем кіраўнікоў мастацкіх калектываў... кожны студэнт — асоба..., ...гэта ўжо гатовыя спецыялісты...» Няўжо выконваючы абавязкі не разумее, што не можа добра кіраваць мастацкім калектывам чалавек, які не ведае мовы, культуры, гісторыі свайго народа? Які ж гэта «гатовы спецыяліст», якая ж гэта асоба? Студэнт В. Чайкоўскі крыўдуе: маўляў, за спазненне дацэнт А. Хв. Майсеенка не пускае на лекцыю. Культурны чалавек, апрача ўсяго, і пунктуальны, і дакладны. Хаця, магчыма, для будучых асветнікаў культура — не самае галоўнае.

Алесь БЕЛАКОЗ,
настаўнік, дырэктар
Гудзеўскага музея.
Мастоўскі р-н,
Гродзенскай вобл.

## ТБМ У РЫМЕ

Дарагія сябры!

Пішуць да Вас беларусы, якія жывуць у Вечным Горадзе Рыме. Хочам Вас ветліва паведаміць, што ў пятніцу 4 мая гэтага году, у прысутнасьці між іншым Адама Мальдзіса, Анатоля Грыцкевіча, Янкі Запрудніка, айца Аляксандра Надсона, Юры Туронка, спадарства Кіпеляў ды іншых, было заснаванае Таварыства Беларускай Мовы — аддзяленьне ў Рыме. У заснавальніцкім сходзе ўдзельнічала каля 20 асоб. Старшынёю аддзяленьня ТБМ у Рыме быў выбраны Янка Мойсік — супрацоўнік Беларускай Праграмы Ватыканскага Радыё.

Таварыства паволі пачынае сваю працу. Ад даўжэйшага ўжо часу выдаецца ў Рыме бюлетэнь «Хрысьціянскія Навіны». Старшыня Таварыства ў апошнім часе даў інтэрв'ю радыёстанцыі «Свабода». У найбліжэйшым часе Таварыства хоча выдаць Цудатворны Мэдалік Найсьвятой Дзевы Марыі з тэкстамі на беларускай мове. Апрача гэтага, члены і прыхільнікі Таварыства амаль кожнае нядзелі сустракаюцца, каб супольна праводзіць свабодны час ды абмяркоўваць напрамкі сваёй дзейнасьці на будучыню.

г. Рым.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэт, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

Згуртаваньне Беларусаў Канады пасылае прывітаньне й самыя шчырыя пажаданьні Таварыству Беларускае Мовы ў яго штодзённай і клапатлівай працы па адбудове й вяртаньню роднай беларускай мовы, каб праз Матку-Мову вярнуць Народу яго гістарычную памяць, духоўнасьць і нацыянальную сьвядомасьць.

Беларусы Канады праз сваю грамадзкую арганізацыю ЗБК шчыра падтрымоўваюць мэты ТБМ і жадаюць у меру магчымасьці падтрымаць Таварыства маральна й матэрыяльна, калі будзе патрэба.

Жадаем нашым землякам на так далёкай, але й так блізкай Бацькаўшчыне самых памысных посьпехаў у працы й барацьбе за вяртаньне беларускае мовы Беларускаму Народу й за яе пачэсны пасад сярод моваў усяго сьвету.

З глыбокай пашанай

Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады
Мікалай ГАНЬКО
старшыня,
Валер'ян НАВІЦКІ
сакратар.
г. Таронта.

## Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

Паведамляем вам, што з 1991 г. бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР, індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Выходзіць штомесяц, падпісная цана на год — 2 руб. 40 кап.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдкалегіі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.



Пры перадрукоўцы матэрыялаў рабіце спасылку на «Наша слова» | Рэдакцыя не рэцэнзуе рукапісаў і назад не вяртае.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000. Заказ 2177. Індэкс 74975.